Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 6

21 студзеня 1927 г.

МЕНСК

## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сесіі, павінны зараз жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зробленыя на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнографічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

Менск. 1-я дзярж. друкарня зак. № 1152—300. Галаўлітбел. № 23799.

## 6-ае ранішняе пасяджэньне IV Сэсіі ЦВК.

*21-га студзеня 1927 году.*

Пасяджэньне адчыняецца а 10 гадзіне раніцы.

*Старшыня—тав. Чарвякоў.*

Старшыня: Чарговае пасяджэньне IV-й Сэсіі ЦВК адчыняецца.

Таварышы, сягоньня споўнілася 3 гады з таго дня, як працоўныя ўсяго сьвету страцілі свайго правадыра Уладзімера Ільліча Леніна. Гэтая страта ўскалыхнула працоўных усяго сьвету. У той час адбываўся II-й Зьезд Саветаў, і лепшыя прадстаўнікі рабочых і сялян, дэлегаты зьезду, сабраўшыся на ўрачыстае жалобнае пасяджэньне, аддавалі апошняе „даруй“ свайму настаўніку, свайму правадыру.

І вось на гэтым урачыстым пасяджэньні працоўныя Савецкага Саюзу ўзялі на сябе шэраг абавязкаў, з абяцаньнем іх выконваць, каб правільна ісьці па шляху свайго правадыра. Разам з іншымі і дэлегацыя ад рабочых ды сялян Савецкае Беларусі давала гэтую клятву, гэтае абяцаньне.

Мы кляліся, што лепшым помнікам Уладзімеру Ільлічу будзе тое, калі кожны з нас будзе шанаваць, берагчы, высака несьці штандар Комуністычнае партыі, як авангарду працоўных у барацьбе за вызваленьне, у барацьбе за соцыялізм. Ня ўсякі можа быць членам Компартыі, бо комуністыя—гэта сыны рабочае клясы, сыны гора і барацьбы, сыны надзвычайных недахватаў і гэроічных натуг, якія аддаюць усё сваё жыцьцё, аддаюць усе свае сілы агульнай справе—барацьбе за вызваленьне працоўных усяго сьвету. Вось чаму кожны з нас павінен берагчы дзіцянё Леніна—Комуністычную партыю.

Пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі мы ідзем уперад у барацьбе за вызваленьне, і для гэтага пабудавалі сваю савецкую дзяржаву. Гэтая дзяржава не падобна да існуючых буржуазных дзяржаў. Наша дзяржава—гэта дзяржава дыктатуры пролетарыяту. Гэта значыць, наша дзяржава пабудована на падставе саюзу рабочае клясы з сялянствам, прычым рабочая кляса, пролетарыят, захоўвае кіруючае становішча ў нашай дзяржаве.

У дзень сьмерці Уладзімера Ільліча Леніна мы далі абяцаньне абавязкова ахоўваць дыктатуру пролетарыяту, як адзіны шлях дзеля перамогі над капіталізмам. Толькі ў тым выпадку, калі ў нашым жыцьці рабочая кляса будзе захоўваць сваю кіруючую ролю, мы здолеем правесьці свой дзяржаўны карабель цераз усе перашкоды, зьберагчыся ад капіталістычных уплываў і дайсьці да соцыялізму..

Толькі ў тым выпадку, калі нам удасца ахаваць саюз рабочае клясы і сялянства, толькі ў тым выпадку, калі паміж рабочым і сялянствам ня зьявіцца шчыліна, мы пераможам. Дзеля гэтага намі і была дана клятва, што мы ўсякімі спосабамі будзем ахоўваць союз рабочых з сялянствам.

Саюз паміж рабочымі і сялян мі павінен быць у той-жа час саюзам між працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяй. Буржуазная дзяржаўнасьць пабудована на прыгнечаньні слабейшых дужэйшымі, пабудована на пашырэньні нязгоднасьці між нацыянальнасьцямі, нават між рознымі рэлігійнымі групоўкамі. Толькі ў тым выпадку, калі нам удасца забясьпечыць мірнае супрацоўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй, мы здолеем ахаваць нашу савецкую дзяржаву, умацаваць яе, і перайсьці на вышэйшую ступень разьвіцьця, да соцыялізму.

Уладзімер Ільліч Ленін для нас, працоўных і барацьбітоў Беларусі, і іншых нацыянальных Рэспублік зьяўляецца ня толькі агульным правадыром у нашай барацьбе за Комунізм.

Уладзімер Ільліч быў у той-жа час барацьбітом, які, грунтуючыся на досьледах і вывадах К. Маркса, першым у гісторыі рабочага руху, распрацаваў з пролетарскага пункту погляду проблему нацыянальнага вызваленьня і паказаў сапраўдныя мэтоды аб'яднаньня нацыянальнай і пролетарскай барацьбы супроць сусьветнага капіталізму.

Ленінізм у нацыянальным пытаньні ёсьць угрунтаваная і глыбака рэволюцыйная сыстэма політыкі і тактыкі. Мы далі клятву ахоўваць правы ўсіх нацыянальнасьцяй, зьнішчыць усякае прыгнечаньне.

На працягу 3-х год, што мінулі з часу сьмерці Ўладзімера Ільліча, мы сваёй працай стараліся давесьці, што на тыя абавязкі, якія мы ўзялі на сябе ў дзень сьмерьці Уладзімера Ільліча, мы не забываемся.

Уплыў Комуністычнае партыі сярод рабочае клясы, сярод сялянства, сярод працоўных усё больш і больш пашыраецца, усё больш і больш павялічваецца.

Калі ўрад БССР рабіў даклад у Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, дык Прэзыдыум у сваёй рэзолюцыі па гэтым дакладзе зазначыў, што нам у Беларусі ўдалося ўзмацніць уплыў Комуністычнае партыі, і што пад яе сьцягам аб'ядналася большасьць насельніцтва Беларусі.

Такім чынам, мы, таварышы, чэсна выконваем першы абавязак, які мы ўзялі разам з усімі працоўнымі, над труной Уладзімера Ільліча.

Другі абавязак—аберагаць адзінства Комуністычнае партыі—рабочыя і сяляне таксама выконваюць і асабліва выразна паказалі гэта ў апошні час у зьвязку з так званай „опозыцыяй".

Комуністычная Партыя Беларусі і разам з ёю ўсе працоўныя Беларусі—рабочыя і сяляне, патрабавалі аднадушна, каб усе ўхілы ў партыі былі зьніштожаны, патрабавалі, каб адзінства партыі было захована. Яны асудзілі прадстаўнікоў так званай [illegible]зыцыі. Комуністычная партыя Беларусі ўвесь час была цьвёр-

дай апорай Цэнтральнага Камітэту Усесаюзнай Комуністычнай партыі ў яе змаганьні супроць так званах опозыцыянэраў.

Ці выконвалі мы абавязак захаваньня дыктатуры пролетарыяту, гэта значыць, ці падтрымлівалі такія ўзаемаадносіны, пры якіх рабочая кляса захоўвае сваю кіраўнічую ролю? Усё наша жыцьцё, уся наша праца, усе нашы дасягненьні могуць служыць на гэта найлепшым адказам. Мы імкнуліся гэты абавязак выконваць, мы ўсюды стараліся вытлумачыць, што, толькі захоўваючы дыктатуру пролетарыяту, Савецкая Беларусь патрапіць забясьпечыць экономічнае і культурнае сваё разьвіцьцё, што толькі такім шляхам можна забясьпечыць паляпшэньне дабрабыту рабочых і сялян, што толькі такім шляхам Савецкая Беларусь можа забясьпечыць сваю Савецкую незалежнасьць. І мы бачым, як з году ў год Савецкая Беларусь узмацняецца, як кіруючая роля пролетарыяту ў нашым дзяржаўным жыцьці, у нашай працы ўсё больш і больш павялічваецца. Социялістычныя элемэнты нашай гаспадаркі ў нашым культурным будаўніцтве ўсё больш перамагаюць над элемэнтамі дробна-буржуазнымі, элемэнтамі буржуазнымі, элементамі капіталістычнымі. Мы бачым, як соцыялістычная ідэолёгія знаходзіць сабе ўсё больш і больш прыхільнікаў і паступова пранікае ў самыя глыбокія нізы нашага гораду і нашай вёскі.

Ахоўваючы кіраўнічую ролю пролетарыяту, мы ўмацавалі саюз рабочых і сялян, уцягваючы ўсё большы лік бяднейшага і сярэдняга сялянства ў непасрэдную дзяржаўную кіраўнічую работу. Саюз рабочых і сялян Савецкай Беларусі—тая падстава, апіраючыся на якую мы вядзем наша будаўніцтва і забясьпечваем сабе перамогу над бядой, някультурнасьцю, беднасьцю. Дзякуючы таму, што рабочая кляса Беларусі, змагалася за вырашэньне надзвычайна цяжкіх задач, разам з сялянствам, у саюзе з ім, нам мала-па-малу ўдавалася гэтыя задачы вырашаць. Наша клятва зьнішчаць няроўнасьць у становішчы розных нацыянальнасьцяй, выконвалася намі таксама з вялікай уважлівасьцю. Савецкая Беларусь можа зьяўляцца прыкладам таго, як Ленінская навука аб сувязі барацьбы, пролетарскай і нацыянальнай, дае свае вынікі ў выглядзе ўмацаваньня савецкае дзяржавы і аб'яднаньня пад сьцягам Компартыі працоўных усіх нацыянальнасьцяй, як роўных з роўнымі і вольных з вольнымі. Беларус, яўрэй, паляк, расіец і ўсе іншыя нацыянальнасьці Савецкай Беларусі маюць роўнае права на ўдзел у дзяржаўным будаўніцтве, на сваё экономічнае і культурнае разьвіцьцё. Саюз паміж працоўнымі ўсіх нацыянальнасьцяй ёсьць другая падстава, якая забясьпечвае нашу перамогу, і мы, узмацняючы гэты саюз, выконвалі сваю клятву і прыняты на сябе абавязак.

Вось, таварышы, нашы агульныя дасягненьні за апошнія гады пасьля сьмерці Уладзімера Ільліча.

Ня гледзячы на калючыя драты, на пагранічную паласу паміж савецкімі і капіталістычнымі дзяржавамі, далёка за нашы межы ідзе чутка аб нашых дасягненьнях.

Кітайскія рэволюцыйныя масы, рабочыя Англіі, наогул працоўныя ўсяго сьвету ў сваёй барацьбе кіруюцца Ленінізмам і захап-

ляюцца імкненьнем да далейшае барацьбы—посьпехамі Савецкіх Рэспублік.

Усё далей і ўсё глыбей прасякае рэволюцыйная думка, Ленінская навука.

Я дазволю сабе, таварышы, надаць тут адзін маленькі, але надзвычайна цікавы прыклад, які можа сьведчыць аб тым, як уплыў соцыялістычнай рэволюцыі ўсё больш глыбака прасуваецца ў жыцьцё буржуазных дз ржаў. Нятак даўно ва ўсіх польскіх газэтах была зьмешчана вестка аб тым, як адзін трынаццацігодні хлапчук з польскай буржуазнай сям'і ўцёк ад сваіх бацькоў. На другі дзень бацькі атрымалі ліст ад гэтага хлопчыка, і ў гэтым лісьце хлапчук паведамляў сваіх бацькоў, што, згодна пастановы сваіх таварышоў вучняў ён ідзе ў Савецкую Рэспубліку. Буржуазная прэса, зьмяшчаючы вестку аб гэтым факце, з абурэньнем называе гэтага хлапчука пры яцелем Саветаў і зазначае, што комунізм прасякае школу. Маленькі гэта прыклад, але надзвычайна цікавы.

Ленінская навука прасуваецца ўсё глыбей, усё далей. Яна ахапляе ўсё большы пласт грамадзтва буржуазных рэспублік, яна разьядае буржуазны лад, яна паступова набліжае канчатковае зьніштажэньне ўлады буржуазіі і перамогу соцыялізму над капіталізмам. Шануючы Чырвоную армію і ўзмацняючы Савецкі Саюз, частку якога складае Савецкая Беларусь, мы здолеем перамагчы ўсе перашкоды і забясьпечым набліжэньне перамогі соцыялізму над капіталізмам.

Наш настаўнік, наш правадыр памёр, але яго вучэньне засталося. Гэтае вучэньне мы стараемся правесьці ў жыцьцё кожным нашым мерапрыемствам. Мы пашыраем тую глебу, на якой вядзем сваю барацьбу, мы пашыраем атрады, якія прымаюць удзел у барацьбе, мы павялічваем нашы посьпехі, мы набліжаем нашу перамогу соцыялізму над капіталізмам.

Сёньня, у дзень 3-й гадавіны сьмерці Уладзімера Ільліча, мы павінны яшчэ раз успомніць яго наказы і даць абяцаньне гэтыя наказы не забывацца памятаць і выканаць.

Я прапаную ўшанаваць памяць Уладзімера Ільліча ўставаньнем (у с е ў с т а ю ц ь).

С т а р ш ы н я: Пераходзім да працягу нашай працы. Слова ў парадку спрэчак мае тав. Іванькові́ч.

Тав. І в а н ь к о в і ч: Таварышы, усё тое, што я хацела сазаць, ужо выказана папярэднімі таварышамі, якія выступалі ў спрэчках. Я хачу спыніцца толькі на выступленьні тав. Анішчанка. Тав. Анішчанка ў сваім выступленьні сказала аб тым, што вельмі кепска стаіць справа з школамі. Гэта няпраўда. Нідзе ня было такіх выпадкаў, каб са школ выганялі бядняцкіх дзяцей. Гэтага няма і не павінна быць.

Што тычыцца пасечак, аб якіх казала тав. Анішчанка, дык хоць яны і мелі месца, але не ў такім разьмеры, як казала тав. Анішчанка. Анішчанка перабольшвае і благое становішча школ і пасечак. Гэта выходзіць таму, што тав. Анішчанка паходзіць з заможнай сялянскай сям'і, яна незнаёма з становішчам беднаты, яна не разумее гэтага становішча. Я сама сялянка вёскі, сялянка батрачка, я ўважліва прыслухоўвалася да выступленьня Анішчанкі і павінна сказаць, што

ўсё тое, што яна нагаварыла, было няправільна. Вось усё, што я хацела сказаць.

Старшыня: Слова мае тав. Гарбачоў.

Тав. Гарбачоў: Я хацеў спыніцца на некалькіх дробных момантах. Усе асноўныя пытаньні аб бюджэце былі ўжо ў большай ці меншай меры ў спрэчках закрануты і высьветлены. Тутака было сказана нібы-та, бюджэт разглядаецца на пашыраных пленумах сельсаветаў і раённага выканкому, тады як гэты бюджэт ужо канчаткова складзен. Гэта магло быць у 1924 годзе. Практыка пабудовы бюджэту на 1926-27 год нам паказвае, што складаньне бюджэту раённага, напрыклад, у нашай Рэспубліцы цалкам залежыць ад бюджэту акруговага і нават бюджэту дзяржаўнага. Чаму? Таму, што наш раённы бюджэт амаль што ва ўсіх раёнах зьяўляецца выключна дэфіцытным бюджэтам. Возьмем для прыкладу Полацкую акругу. Там няма бюджэту, які зводзіў-бы канцы з канцамі. Увесь бюджэт зьяўляецца дэфіцытным. Значыцца, тутака зацьвярджаць і складаць бюджэт няма ніякай магчымасьці, пакуль ня будзе гэтае пытаньне належным чынам вырашана ў акругах і ў цэнтры.

Цяпер я хацеў у двох словах спыніцца на адным дробным моманце пры складаньні бюджэту па ўстанаўленьню, скажам, штатаў у канчатковым сэнсе. Мне здаецца, што ня было зьвернута патрэбнай увагі, галоўным чынам, у акругах на забесьпячэньне тых работнікаў спэцыялістых, работа якіх зьвязана з пастаяннымі разьездамі. Гэтыя разьезды забясьпечваюцца патрэбнымі сродкамі згодна кодэксу па ахове працы. Кожны агроном, культурны работнік, тэхнік, спэцыялісты па агнятрываламу будаўніцтву і тарфянай справе, згодна кодэксу па ахове працы, мае права на атрыманьне $^{1}/_{24}$ сутачных грошай і апрача таго ім павінны быць зьвернуты фактычныя выдаткі, якія былі выкліканы тэй ці іншай камандыроўкай. У законе проста сказана, што пры падарожжы ў акругу далей, чым на 25 вёрст ад цэнтру, яны павінны атрымаць грошы, а мы ім ня выплачваем гэтых грошай, бо гэтыя грошы не адпушчаюцца. Такое становішча рабочых мае ўплыў на посьпех работы гэтых спэцыялістых і выклікае розныя незадаваленьні і канфлікты з саюзнымі організацыямі. Так што на гэта трэба, памойму, зьвярнуць сур'ёзную ўвагу. Вось усё, на чым я хацеў спыніцца.

Старшыня: Слова мае тав. Мікуліч.

Тав. Мікуліч: У гэтым годзе поўнасьцю праведзена нормаваньне заработнай платы для працаўнікоў, якія знаходзяцца на дзяржаўным бюджэце, і часткова—для працаўнікоў, якія праходзяць па мясцоваму бюджэту. Таварышы, якія тутака выступалі, высоўвалі момант аб тым, каб ужо з будучага году правесьці нормаваньне заработнай платы і па мясцовым бюджэце, і ўхіліць разрыў паміж зарплатай дзяржавы і мясцовага бюджэту; у пасобку аб гэтым казаў тав. Гнілякевіч, таварыш Турлай у адносінах гарадоў. Мы ў гэтым змаглі ўжо па Віцебску і Менску падраўняць заработную плату і ўхіліць гэты разрыў паміж дзяржаўным і мясцовым бюджэтамі. Савет Народных Камісараў адзначыў, што ў далейшым трэба гэтую працу праводзіць, але ён не паказаў, каб гэта канчаткова правесьці іменна з будучага году. Таварышы высоўваюць тутака пытаньне, што гэта можна і трэба правесьці з будучага году. Я падлічыў, колькі-б гэта каштавала для мясцовага бюджэту, калі-б была прынята пропозыцыя гэтых таварышоў, і атрымаў наступныя даныя: сярэдняя зарплата па дзяржбюджэц складае 51 руб. 11 кап., па мясцовым бюджэце 42 руб. 25 кап. Калі ўзяць па колькасьці адзінак, якія знаходзяцца на дзяржаўным і мясцовым бюд-

жэтах, і падлічыць, колькі будзе каштаваць гэтае зраўнаньне для мясцовага бюджэту, ня робячы ніякіх зьмен па дзяржбюджэту, дык акажэцца, што гэтая рэформа запатрабуе 3.182.000 рублёў.

Выходзячы потым з таго, што падрахунак мясцовых бюджэтаў у гэтым годзе раўняецца 34 млн. і што рост мясцовых бюджэтаў у далейшым, разумеецца, будзе куды меншы, чымся ў гэтым годзе,— у сярэднім гэты прырост у далейшым будзе складаць 10-15% проц.,—дык мы ўбачым, што прыдзецца ўвесь гэты процэс накіраваць на падцяганьне заработнай платы і ўхіленьне таго разрыву, які існуе ў заработнай плаце паміж дзяржаўным і мясцовым бюджэтам. Але-ж таварышы высоўвалі цэлы шэраг задач: паляпшэньне якасьці існуючай і г. д; і калі сеткі, павялічэньне асыгнаваньняў на прамысловасьць мець на ўвазе, што гэтыя задачы таксама трэба зьдзейсьніць, дык мы ўбачым, што ўхіліць гэты разрыў у заработнай плаце на працягу аднаго году мы ня здолеем, і што гэта трэба праводзіць паступова.

Другое пытаньне—аб раённым бюджэце, у тым ліку аб местачковым і сельскім бюджэтах. Некаторыя таварышы адзначалі, што сельскі бюджэт трэба ў далейшым пашыраць. Мы пакуль што яшчэ ўпяршыню для практыкі ўвялі па аднаму сельскаму бюджэту на кожную акругу, толькі Магілеўская акруга мае ў сябе 3 сельскіх саветы са сваімі бюджэтамі, а Бабруйская—2 сельскіх бюджэты. З ліку ўсіх гэтых 14 сельскіх бюджэтаў мы маем бездэфіцытных толькі 6 (агаварваюся, што па Магілеўскай акрузе і па Бабруйскай мы маем толькі зборы сельскіх бюджэтаў і бачым, што яны бездэфіцытны, але, ці зьяўляюцца яны бездэфіцытнымі кожны ў асобнасьці—гэтага мы ня ведаем). Значыць, ва ўсякім выпадку гэтыя даныя гавораць за тое, што можна знайсьці такія сельскія саветы, у якіх ёсьць прыбытковыя паступленьні апрача сельгаспадатку, і што, значыць, у асобных выпадках можна пашыраць сельскія бюджэты. Але катэгорычна сказаць сёньня, што мы павінны форсіраваць пашырэньне сельскіх бюджэтаў у далейшым—гэта цяжка. Таварышы гаварылі, што сельскі бюджэт у нас яшчэ фактычна выдзелены з раённага бюджэту, што сельскі бюджэт ня мае сваёй касы, не вядзе рахункаводзтва, а калі гэта завесьці, дык можа быць патрэбна будзе павялічыць штаты, бо старшыня і сакратар ня змогуць быць адначасна і скарбнікам, і бухгальтарам, і рахункаводам. Усё гэтае пытаньне яшчэ ня вывучана, і калі пайсьці на павялічэньне штатаў для сельскага бюджэту, гэта выкліча павялічэньне адміністрацыйных выдаткаў. Вось чаму на сёньнешні дзень цяжка сказаць аб хуткім пашырэньні сельскага бюджэту, тым больш, што большасьць сельскіх саветаў мае на сваёй тэрыторыі прыбытак толькі ад сельгаспадатку, а сельгаспадатак, як вы ведаеце, (некаторыя таварышы ўжо прыводзілі лічбы, колькі сродкаў трацiцца на сельскую гаспадарку, на школы, на больніцы і г. д.), можа пакрыць выдаткі на тэрыторыі сельскага савету па ўтрыманьню сельсавету, хаты-чытальні, некалькіх школ і г. д.; толькі ў частцы.

Але, ізноў такі, з гэтага ня вынікае, што гэтае пытаньне трэба пакінуць. Для практыкі мы сельскі бюджэт уводзім; трэба гэтую справу вывучаць для таго, каб зрабіць адпаведныя вывады на далейшы час.

Раённы бюджэт—гэта мы можам сказаць ужо сеньня ўпаўне цьвёрда—сябе ўжо апраўдаў і адыграў найвялікшую ролю ў справе экономічнага разьвіцьця раёнаў, але мы бачым, што раённы бюджэт яшчэ ў многім залежыць ад акруговага і што мы яшчэ да гэтых пор не зьвярнулі даволі ўвагі на раённы бюджэт. Праўда, пры росьце ўсіх бюджэтаў у сярэднім на 34,6 проц., раённы бюджэт вырас на 46,6 проц., але ўсё-такі ён яшчэ дэфіцытны на 52 проц. І хаця ў нас, у Беларусі,

раённы бюджэт займае большую ўдзельную вагу ў мясцовых бюджэтах, чым у іншых Саюзных Рэспубліках, але гэта нас не павінна заспакойваць. Залежнасьць раённага бюджэту ад акруговага вялікая. Чаму гэта так выходзіць? Таму, што Саўнарком устанавіў толькі найменшыя адлічэньні ад прыбыткаў, якія зьбіраюцца на тэрыторыі раёну ў раённы бюджэт, і што, значыцца, акруговыя выканаўчыя камітэты павінны вывучыць у далейшым кожны раён з тым, каб у залежнасьці ад мясцовых умоў вылучаць яму дадаткова тыя альбо іншыя прыбыткі, якія зьбіраюцца на тэрыторыі раёну, каб такім парадкам раённыя бюджэты былі ў меншай залежнасьці ад акруговых, каб яны былі меней дэфіцытнымі. Гэта ў многіх раёнах і акругах, асабліва ў бездэфіцытных акругах, можна і трэба зрабіць.

Тав. Яцкевіч высунуў пытаньне аб тым, каб была ўвязка між дзяржаўным і мясцовым бюджэтамі, што мясцовы бюджэт павінен дапаўняць мерапрыемствы, якія праводзяцца па дзяржаўным бюджэце. У асноўным я з ім, зразумела, згодзен, але т. Яцкевіч кажа, што гідротэхнікі і іншыя спэцыялістыя не праходзяць па мясцоваму бюджэту і таму, нібы, тут няма ўвязкі. Па гэтаму пытаньню я павінен толькі даць спраўку, што ўсе гэтыя спэцыялістыя праходзяць па дзяржаўным бюджэце, і мне здаецца штось, што мы па існуючых палажэньнях аб бюджэтах маглі цэнтралізаваным шляхам правесьці па дзяржаўным бюджэце, то мы павінны былі гэта зрабіць, не абцяжваючы мясцовы бюджэт тымі выдаткамі, якія дзяржаўны бюджэт можа прыняць на сябе, бо перад мясцовым бюджэтам ёсьць цэлы шэраг задач, з якімі ён яшчэ ня зусім добра спраўляецца.

Што датычыць мэліорацыі, дык у далейшым неабходна нашаму ўраду паставіць перад Саюзам пытаньне аб адлічэньні выдаткаў па мэліорацыі нават на саюзны бюджэт, таму што наша мэліорацыя мае вялікае значэньне для ўсяе сельскае гаспадаркі.

Цяпер, адносна якасьці нашай сеткі. Мы шырока, асабліва за апошні год, разгарнулі нашу сетку. Толькі адных новых школьных комплектаў на сяле мы адчынілі 537, новых больнічных ложкаў, пераважна на сяле,—369. На абсталяваньне іх давалася ў такіх-жа памерах і нават з некаторым павялічэньнем параўнальна з мінулым годам. Але з гэтага не вынікае, што ў нас тут, у адносінах якасьці нашай сеткі, усё добра абстаіць. Нашы раённыя больніцы, школы, можа, не заўсёды маюць адпаведныя памяшканьні, не заўсёды ў дастатнай меры абстаўлены; таксама маюць рацыю тыя таварышы, якія адмячаюць, што сямігодкам патрэбна даць бібліотэкі, але калі мы гэтую задачу паставім перад сабой, дык мне здаецца, што мы ня зможам так хутка разьвіваць сетку далей, адначасова паляпшаючы яе якасьць. З прычыны гэтага перад намі ў далейшым, відавочна, стане задача, каб за кошт якасьці спыніць тэмп росту, паляпшаць якасьць існуючых і зноў адчыняемых установ.

У адносінах агнястойкага будаўніцтва тав. Нікалаеў гаворыць, што нічога не прадугледжана па бюджэце. Я магу даць спраўку, што па дзярж. і мясцовым бюджэце праходзяць асыгнаваньні на 10 асоб інструктароў па агнястойкім будаўніцтве. Пытаньне толькі ў тым, удасца Наркамасьветы, ці не, падрыхтаваць такіх спэцыялістых, бо ў мінулым годзе такіх ня было. Па бюджэце прадугледжаны па 2 чал. на акругу.

Цяпер наконт Гомельскага і Рэчыцкага паветаў, адносна так званага прыбытку. Гаварыць становуча, што 2.000.000 руб. зьяўляюцца як-бы лішкамі на тэрыторыі Гомельскай і Рэчыцкай акруг нельга, таму што гэтая лічба атрымалася, дзякуючы грубаму падліку. Калі

браць першы квартал, г.-зн. за ¼ году, дзе крэдыты былі адчынены авансам, бяз выдаткаў на розныя мерапрыемствы—зямлябудаўніцтва, лесаўпарадкаваньне і г. д. (галоўным чынам, выдаткі на апарат і іншыя мерапрыемствы, якія павінны праходзіць па мясцовым бюджэце і якія ўваходзілі ў ўлік бюджэту РСФСР),—калі гэтай працай заняцца,—а цяпер гэтай працай займаюцца,—і калі будзе дакладны падлік, дык можна будзе казаць аб лішках або недахватах.

Па пытаньні аб сельска-гаспадарчым падатку. Шмат якія таварышы гаварылі аб недахваце сыстэмы с.-гасп. падатку, якая заведзена ў гэтым годзе. Некаторыя таварышы гаварылі, што сыстэма с.-г. падатку—магчымая і добрая; пацьвердзілі па ўсіх акругах і мясцох, што сыстэма добрая. Ёсьць толькі асобныя моманты, калі, напрыклад, у шматедаковых гаспадарках, цяжка бывае падлічыць незямляробскія заробкі, бо шматсямейныя гаспадаркі маюць шмат рабочых рук і трэба думаць, што яны прырабляюць. Дзякуючы гэтаму, іх гаспадаркі выдзяляюцца ў вёсцы проці іншых гаспадарак, а больш заможныя гаспадаркі падпадаюць пад льготы. Ёсьць іншыя моманты адмоўныя, якія ў далейшым трэба будзе вывучыць, зьнішчыць, зрабіўшы на будучы год, папраўкі якія выявіліся ў процэсе работы.

Цяпер, скажу некалькі слоў у зьвязку з выступленьнем т. Гнілякевіча. Тав. Гнілякевіч казаў, што агрономы ходзяць пешшу. Я даю спраўку аб тым, што даецца 200 руб. у год на разьезды. Можна за гэтыя грошы купіць каня і не хадзіць пехатою, або нават селянін згодзіцца развозіць за гэтую плату. (Г н і л я к е в і ч: У тым ліку і на фураж).

Наконт зарплаты каморнікам т. Гнілякевіч гаворыць, што ніяк нельга змовіцца з Наркамфінам. Я ня буду даводзіць высокая ці нізкая зарплата каморнікам. Гэтае пытаньне разглядалася ў СНК і зарплата вызначана, але гутарка ідзе аб далейшым павялічэньні зарплаты для каморнікаў супроць тых ставак, якія ўжо вызначаны і ўвайшлі ў бюджэт. Гэтае пытаньне патрабуе дадатковых асыгнаваньняў, і тут сустракаюцца перашкоды, таму што той фонд, што дзяржава дае, супроць мінулага году павялічваецца на 5 проц. У мінулым годзе было 30 проц. на вызваленьне беднаты ад платы за зямляўпарадкаваньне (СНК зацьвердзіў гэту лічбу, і ў саюзных органах гэта, здаецца, таксама не выклікае супярэчаньняў), а цяпер—35 проц. з разьлікам на магчымае павялічэньне платы ад дзесяціны селяніна за зямляўпарадкаваньне. Пры вызначэньні ставак для каморнікаў з гэтага і трэба выходзіць. Трэба таксама ўлічаць і нашы балоты, якія страшэнна палохаюць каморнікаў; асабліва яны ня хочуць ехаць у Мазыршчыну, патрабуюць асобных ставак. Усё гэта будзе ўлічацца, але падкрэсьліваць, што гэта віна Наркамфіну—не выпадае. Справа ў тым, што няма сродкаў для таго, каб задаволіць заяўкі і запатрабаваньні тав. Гнілякевіча.

Адносна аховы працы т. Гнілякевіч кажа, што зусім ня ўлічана ахова працы. Можа быць, гэта не дакладныя даныя. Я дам спраўку, што ўлічана ахова працы і для рэшты катэгорый працаўнікоў. У стасунку да лясьнікоў мы лічылі, калі разглядалі бюджэт, што можа адзін лясьнік замяняць другога па суседзтву на час яго водпуску. Справа ў тым, што летам справа з парубкамі стаіць найбольш спакойна. Летам селянін ня едзе ў лес і летні час можна шырака выкарыстаць для водпускаў лясьнікоў, маючы на ўвазе, што на летні час спэцыяльна выдзелены так званыя пажарныя вартаўнікі.

Тав. Дубіна высунуў момант, што трэба ўсе прыбыткі класьці ў агульны кацёл. Калі-б было так, дык ня было-б мясцовых бюджэтаў, а было-б нешта накшталт рэспубліканскага мясцовага бюджэту

і разьмеркаваньня па акругах. Я згодзен з т. т., якія высоўвалі момант аб тым, што ў далейшым трэба спросьціць праходжаньні мясцовых бюджэтаў, каб менш было рэгуляваньня з боку цэнтру ў адносінах да мясцовых бюджэтаў. Я згодзен, што нам трэба ў далейшым імкнуцца да гэтага і падтрымліваю тых таварышоў, якія гаварылі, што трэба (здаецца, тав. Яцкевіч) адмовіцца зусім ад субвэнцыі. Тады гэтае рэгуляваньне значна спросціцца. Іменна субвэнцыя прымушае нас праводзіць гэтае рэгуляваньне. Калі мы так пабудуем бюджэт, каб, адмовіўшыся ад субвэнцыі, зьвесьці бюджэт бездэфіцытна, дык мы будзем мець магчымасьць даць загадзя ўжо нашу папярэднюю лічбу па фондзе рэгуляваньня незаможных адсталых акруг для таго, каб яны з алянсавалі, каб яны сабралі канчаткова бюджэт і перабудавалі яго пасьля прагляду тут Саўнаркомам, згодна з плянамі народнай гаспадаркі. Да гэтага трэба імкнуцца. Мабыць перад намі стане задача ў будучыне прыводзіць наш мясцовы бюджэт да бездэфіцытнасьці.

У стасунку да прыбытку, шмат хто, спыняючыся на прыбытках, казалі, галоўным чынам, што лясы даюць вялікі прыбытак. Па пытаньні аб лясох я дам некалькі справак. Папершае, лес адпушчаецца школам бясплатна, на дарожнае будаўніцтва лес адпушчаецца па леташніх таксах, пасьля, насельніцтва можа таксама атрымаць дармова дровы з буралому і г. д. На падставе гэтага я хацеў зрабіць адну заўвагу, як некаторыя таварышы казалі, што мала асыгнавана для сельсаветаў, школ і г. д. Я-б лічыў, што трэба было-б пабудаваць так работу на мясцох, каб тыя сродкі, якія хоць-бы і ў малой колькасьці адпушчаюцца на апал, былі-б выкарыстаны на алоўкі, сшыткі і г. д., а дровы насельніцтва магло-б само загатаваць дармова з гэтых астач. Сельсаветы і райвыканкомы павінны правесьці такую работу. Цяпер я дам спраўку адносна выступленьня таварышоў, якія скардзіліся на зьмену адноснае вагі іх акруговых бюджэтаў (у прыватнасьці, тав. Яцкевіч у стасунку да Менскае акругі). Калі карыстацца асобнай табліцай і поўнасьцю прагледзець гэты матар'ял, дык можна сапраўды зрабіць памылку, што адносная вага акруг зьмянілася проці мінулага году і будзе зьмяняцца ў будучыне, бо ўзяты курс на падцягваньне адсталых акруг. Гэта ня ёсьць поўнае зраўнаньне. Мы ў гэтым годзе правялі прынцып зраўнаньня комунальных прыбыткаў і выдаткаў, але нельга параўнаць гарады Віцебск, Менск, Бабруйск з Калінінскам. Якая адносная вага комунальных выдаткаў па гэтых буйных і дробных гарадох? Адносная вага выдаткаў у большых акругах будзе вышэйшая. Ёсьць і іншыя акалічнасьці Перад намі павінна стаяць задача па падцягваньні адсталых акруг у сэнсе абслугоўваньня насельніцтва школамі, больніцамі і іншымі мерапрыемствамі. Гэтая праца на працягу некалькіх год запар праводзіцца, зразумела, за кошт адноснае вагі тых, якія знаходзяцца ў лепшых умовах.

Калі мы возьмем параўнаўчую табліцу забясьпечаньня аховы здароўя па сельскіх мясцовасьцях, дык убачым, што Менская акруга траціць на душу насельніцтва ўсяго ў рублёх 1 руб. 45 кап., тымчасам як Бабруйская—1 руб. 05 кап., Віцебская—1 руб. 13 кап., Калінінская—74 кап., Мазырская—74 кап., Аршанская—82 к., Полацкая—1 руб. 10 кап., Слуцкая—77 кап., Магілеўская........., Барысаўская.........,

Што тычыцца спраўкі т. Яцкевіча аб тым, што выдаткі на душу ўсяго насельніцтва, гарадзкога і сельскага, па ахове здароўя ў Менскай акрузе меншыя, чым па іншых акругах, і што ўстановы каштуюць танней, чым на тэрыторыі іншых акругоў, дык гэта трэба вытлумачыць тыпам устаноў. Калі ў аднэй больніцы маецца пяць ложак, а

ў другай—15, дык абслугоўваньне аднаго ложка будзе таней у больніцы з 15 ложкамі, чым з 5 ложкамі, бо пэрсаналу прыпадае значна больш на 1 ложак пры 5 ложкавай больніцы. Гэтае пытаньне вывучана. А ў акругах з рэдкім насельніцтвам, асабліва ў Мазырскай і Полацкай, нельга мець 15 ложкавай больніцы на раёнах па гушчыні насельніцтва, а ў Менскай акрузе гэта робіцца больш танным, дзякуючы выдаткам на кожны ложак.

Пераходжу да пытаньня аб сельскай гаспадарцы. Тав. Яцкевіч скардзіўся на тое, што менская жывёлаводчая акрузе на выдаткі па сельскай гаспадарцы даецца менш, чым па іншых акругах. Калі мы возьмем вэтэрынарыю для жывёлаводчай акругі (тутака ёсьць табліца выдаткаў на галаву ската), дык мы ўбачым, што па Менскай акрузе адпускаецца 24 кап., пры сярэднім выдатку па БССР—18 кап. Мы бачым, што жывёлаводчы ўхіл Менскай акругі таксама прыняты пад увагу пры асыгнаваньні па бюджэту на выдаткі па вэтэрынарыі.

Калі мы возьмем груба параўначыя даныя па спраўцы т. Васілевіча аб выдатках на душу насельніцтва, дык хоць іх нельга назваць дакладнымі, аднак яны даюць агульнае прадстаўленьне аб дасягненьнях бюджэту тэй ці іншай акругі, даюць бясспрэчнае прадстаўленьне аб гэтым пляне.

Старшыня: Слова мае тав. Баліцкі.

Баліцкі: Бюджэт гэтага году распрацован дасканальна і стала і пабудован у агульных сваіх рысах правільна. Гэты год зьяўляецца першым годам, калі пры пабудове бюджэту, як дзяржаўнага, гэтак і мясцовага, мы мелі цэлы шэраг распрацаваных плянаў ня толькі на гэты год, але і орыентовачных плянаў на цэлы шэраг наступных гадоў. Мы мелі распрацаваныя пляны па сельскай гаспадарцы на пяць год, па правядзенью ўсеагульнага абавязковага навучаньня на 10 год, плян дарожнага будаўніцтва і г. д. Мне здаецца, што гэты год зьяўляецца таксама і першым годам, калі была зроблена спроба распрацаваныя пляны паасобных ведамстваў рэгуляваць згодна агульнага генэральнага пляну Саўнаркому, згодна агульнай лініі, агульных патрэб нашага соцыялістычнаго будаўніцтва. Такім чынам, тая дыспропорцыя ў выдатках, якая прыкмячалася ў мінулыя гады, у гэтым годзе стала меншай, але бюджэт гэтага году зьяўляецца напружаным бюджэтам. Мне здаецца, што частка прыбыткаў, калі мы на іх ня зьвернем асаблівай увагі, можа быць не атрымана і, такім чынам, бюджэт можа ў сваёй рэальнасьці захваляваецца. У сувязі з гэтым, бязумоўна, самая паважная і вялікая задача, якая стаіць перад намі, гэта тое, каб усе тыя прыбыткі, якія прадугледжаны па бюджэту, абавязкова былі забраны. Таксама могуць быць цалкам н атрыманы сродкі і па субвэнцыйнаму фонду. І вось наша задача, у выпадках магчымага скарачэньня зацьверджанага бюджэту, трэба скарачаць тыя выдаткі, якія могуць менш шкадліва адбіцца на нашым будаўніцтве. Мне здаецца, што па прыкладу мінулых год мы ня пойдзем на скарачэньне праізводчых выдаткаў, новага будаўніцтва; яно павінна быць забясьпечана сродкамі цалкам. Можна скарачаць па адміністрацыйных выдатках і па тых з іх, якія менш балюча будуць адбівацца на нашай гаспадарцы. Пры пабудове бюджэту, як дзяржаўнага, гэтак і мясцовага, вось ужо на працягу некалькіх год мы наглядаем адну недарэчнасьць: бюджэт будуецца вельмі позна. Пачынаем бюджэтны год, а зацьверджанага бюджэту яшчэ няма. Гэтая акалічнасьць асабліва дрэнна адбіваецца на культурна-асьветных установах. Вучэбны год пачынаецца найпазьней з 1-га кастрычніка, а ў шмат якіх установах з 1-га верасьня; і культурна-асьветныя ўстановы пачынаюць жыць і будуюць пляны на срод-

кі, прадугледжаныя бюджэтам, а потым выяўляецца, што бюджэт зацьверджан канчаткова ў скарочаным выглядзе, руйнуюцца пляны, руйнуецца праца.

Пры пабудове бюджэту і пры яго выкарыстаньні мы павінны перайсьці да большай дэцэнтралізацыі. Трэба, каб свой каштарыс складала кожная ўстанова, каб гэты каштарыс абгаварваўся ў сельскіх альбо местачковых саветах і потым пераходзіў на зацьверджаньне раённага выканаўчага камітэту.

Да гэтых пор назіраецца такі малюнак, што замест самых устаноў бюджэт складаюць за іх раёны, а самі ўстановы ня прымаюць удзелу ў працы па складаньню свайго бюджэту. Мы павінны перайсьці да распрацоўкі сталых жыцьцёвых норм выдаткаў на кожны тып установы, на кожнае мерапрыемства; нормы гэтыя павінны быць абгавораны яшчэ ў гэтым годзе, зацьверджаны адпаведным чынам і разасланы на месцы. Кіруючыся гэтым стандартам, можна складаць бюджэт кожнай установы, і ня будзе небясьпекі, што ўстановы могуць нястала яго зладжыць. Пры выкарыстаньні бюджэту трэба перайсьці на дэцэнтралізаваны спосаб. Цяпер крэдыты разьмяркоўвае Райвыканком. За атрыманьнем дазволу на выдатак кожнае капейкі трэба ехаць у раённы выканаўчы камітэт. Пара перайсьці да дэцэнтралізацыі і ў гэтых адносінах; трэба, каб установа сама распараджалася сваімі крэдытамі. У нас, на Беларусі, у большасьці раёнах гэтага няма, пры самастойным распараджэньні крэдытаў самой установай будзе большая гаспадарнасьць, большая адказнасьць кожнага кіраўніка ўстановы за сваю працу.

Цяпер пяройдзем да бюджэту Народнага Камісарыяту Асьветы. Тут многія таварышы адзначалі, што культурна-асьветныя ўстановы ў бюджэце займаюць вельмі значнае месца і што трэба выдаткі па культурна-асьветных установах памяншаць. Мы ніяк ня можам стаць на гэты пункт погляду. Мы прымушаны на культурна-асьветныя справы траціць шмат грошай. Гэта зразумела, калі прыняць пад увагу, што ў нас вялікая колькасьць няпісьменных асабліва ў сялянскіх мясцовасьцях, што ў нас да рэволюцыі ня было ні аднае вышэйшае вучэбнае ўстановы, ні аднаго тэхнікуму, што ў нас былі зруйнаваны вайной і окупацыямі ўсе школьныя ўстановы, іх маемасьць і будынкі. Усе гэтыя зруйнаваныя будынкі, паламаную мэблю, сапсаваныя вучэбныя прылады трэба аднавіць і на гэта патрэбны сродкі. Зразумела, што ў адзін год гэтага зрабіць нельга, выдаткі на гэтыя патрэбы будуць павялічвацца з кожным годам, адпаведна матар. магчым. Трэба адзначыць, што ў агульна-дзяржаўным і мясцовым бюджэце выдаткі на культурна-асьветныя патрэбы паступова пачынаюць займаць усё меншую і меншую ўдзельную вагу. У 1925-26 г. па мясцоваму бюджэту выдаткі на культ.-асьветныя справы былі павялічаны на 3.407.711 р., а ў гэтым годзе толькі на 3.086.000 р. Такім парадкам вы бачыце, што ў гэтым годзе сродкі на культ.-асветныя ўстановы павялічаны менш, чым у мінулым годзе. Тое-ж самае і па дзяржаўнаму бюджэту. Мы бачым, што сродкі на культурна-асьветныя патрэбы павялічыліся ў гэтым годзе на 21 проц., а дзяржаўны бюджэт вырас значна больш. На што ідзе павялічэньне бюджэту па народнай асьвеце? Галоўным чынам на адчыненьне новых школ і на будаўніцтва. Мы распрацавалі плян усеагульнага абавязковага навучаньня, які павінен быць выканан канчаткова ў 1934-35 вуч. год. Да гэтага часу ў нас павінна быць столькі школ, каб можна было ў іх зьмясьціць усіх дзяцей узросту ад 8 да 11 год. Ці можам мы гэты плян расьцягнуць больш, чым на 10 год? Ня можам. 10 год—гэта таксама вялікі тэрмін. У зьвязку з гэтым вы-

даткі на асьвету ў далейшым павінны павялічвацца, бо ў праціўным выпадку мы не правядзем пляну ўсеагульнага навучаньня. Калі можна скараціць выдаткі на іншыя культурна-асьветныя ўстановы, дык на школы мы скараціць ня можам. Зразумела, што выдаткі на культ.-асьветныя ўстановы будуць у далейшым расьці больш павольным тэмпам. Па пляну ўсеагульнага навучаньня выдаткі павялічваюцца ў гэтым годзе на 31 проц. і ў будучым годзе на 20 проц., а ўва ўсе астатнія гады толькі на 10 проц. У нас каля 50 проц. школ знаходзяцца ў наёмных памяшканьнях, не дапасаваных да працы школ. Мы павінны зьвярнуць большую ўвагу на пабудову школьных будынкаў бо і так па нашаму пляну пабудова школьных будынкаў расьцягнута на 15 год.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што бюджэт Наркамасьветы будзе расьці, і мыляюцца тыя таварышы, якія кажуць, што мы павінны скараціць выдаткі на культурна-асьветныя патрэбы. Гэтых выдаткаў скарачаць нельга, бо іх высоўвае само жыцьцё, бо іх патрабуюць рабочыя і сяляне. Мы не павінны сябе абманваць упэўненасьцю ў тым, што мы зможам гэтыя выдаткі скарачаць. Выдаткі павінны расьці, бо іх патрабуе жыцьцё. Праўда, я згодзен, ды і ўсе ведаюць, што культурна-асьветныя ўстановы дрэнна яшчэ абсталяваны і што яны ў зьвязку з гэтым працуюць ня досыць добра. У бібліотэках школьных някніг, не хапае пісьмовых прыладаў і г. д. На гэтыя патрэбы таксама неабходна будзе штогод выдаткі павялічваць, аднача сна з падняцьцем нашай экономікі, нашых прыбыткаў.

Я павінен адзначыць, што аднэй з адмоўных зьяў ёсьць слабая забясьпека настаўніцтва. Настаўнікі атрымоўваюць 37 руб. у месяц. І вось для таго, каб атрымаць гэтыя 37 р. у месяц, настаўнік павінен канчаць пэдтэхнікум альбо унівэрсытэт. У гэтым годзе мы наглядалі, што ня хочуць ісьці на пэдагогічны факультэт вучыцца, ня зусім ахвотна ідуць у пэдтэхнікумы, таму што яны ня маюць далейшых пэрспэктыў у сэнсе матар'яльнага забясьпечаньня.

Нам трэба будзе абавязкова падняць заработную плату настаўнікам. Інакш мы ніколі не даб'емся кваліфікаваных настаўнікаў, не падымем працы і будзем мець недахоп пры паступленьні ў пэдагогічныя ўстановы. Стаўкі між настаўнікамі і інш. працаўнікамі разыходзяцца, прычым сутнасьць яшчэ ў тым, што настаўнік мала мае пэрспэктыў руху па службе, якая яго больш матар'яльна забясьпечвала. Ён працуе настаўнікам і 20 год будзе працаваць настаўнікам і колькі-б ён не працаваў, ён будзе атрымоўваць заробак, які положан для настаўніка, у той час, як у працаўнікоў другіх катэгорыяў ёсьць пэрспэктывы на далейшы рух па службе. (Гнілякевіч: У каго?) Хоць бы, напрыклад, па Наркамзему Там, калі працаўнік паступае на службу, ён атрымоўвае адну пэнсію, а праз некаторы час другую, а потым трэцюю. Пэнсія яго падвышаецца. (Гнілякевіч: Няправільна). Тое самае ў адносінах супрацоўнікаў савецкага апарату; яны маюць пэрспэктывы паступовага руху. Працаўнік тут паступае на ніжэйшую пасаду, а потым, набываючы паступова большую кваліфікацыю, ён усё больш прасоўваецца наперад. Значыць, тут ёсьць пэрспэктывы, а ў настаўнікаў такіх пэрспэктыў мала.

Так што павялічыць пэнсію настаўнікам неабходна, і гэта адна з нашых чарговых задач. Мы ў гэтым годзе крыху павялічылі і мы павінны імкнуцца павялічыць яе і ў далейшым.

У канцы майго слова я хачу закрануць тыя пытаньні, аб якіх тут гаварылі выступаўшыя таварышы. Некаторыя з выступаўшых тава-

рышоў, напрыклад, Браўковіч, гаварылі, што мы маем сьпіс устаноў, прычым сярод іх ёсьць многія мёртвыя культурна-асьветныя ўстановы, а між тым, па іх робяцца выдаткі. У нас зараз няма ніводнай мёртвай установы, ні аднэй непатрэбнай. Тав. Браўковіч зазначаў на настаўніцкія курсы, якія мы праводзім кожны год; ён кажа, што яны зараз непатрэбны. А ці ведае т. Браўковіч, што ў нас каля 30 проц., настаўнікаў ня маюць ніякай пэдагогічнай асьветы. (Голас з месца: Дык нашто павялічаць ім заработную плату?;) і ім таксама трэба пэнсію павялічыць. Але іх трэба кваліфікаваць, павялічаць іх узровень ведаў. У праціўным выпадку могуць наглядацца зьявішча, што будуць настаўнікі, якія будуць вучыць і нічога не навучаць. Гэта дзе-ні-дзе наглядаецца. Значыць, нам трэба паляпшаць іх кваліфікацыю, інакш быць ня можа. У нас няма ні аднэй культурна-асьветнай установы, якая пры сучасных умовах была-б непатрэбна. Мы ўжо даўно скарацілі ўсё тое, без чаго мы як-небудзь можамабыйсьціся. што патрэбна, але без чаго мы можам менш балюча абыйсьціся; мы заставілі самае неабходнае.

Сярод культурна-асьветных устаноў яшчэ няма аднолькавага становішча. Мы бачым, што ўстановы для нацыянальных меншасьцяй, якія не атрымалі спадчыны ад мінулага (ні будынкаў, ні падручнікаў і г. д.) і якія адчынены толькі ў пэрыод пасьля Кастрычнікавае рэволюцыі—гэтыя ўстановы знаходзяцца ў крыху горшым становішчы, чым іншыя, і гэта стварае вельмі дрэнны настрой. Калі мы возьмем, напрыклад, яўрэйскія культурна-асьветныя ўстановы, яўрэйскую школу ў мястэчках і параўнаем яе з беларускай школай у тым-жа мястэчку, дык убачым, што яўрэйская школа ў дзе якіх мясцох, параўнаўча з беларускай, знаходзіцца ў горшым становішчы. І гэта робіць ураженьне, што мы, быццам, крыўдзім насельніцтва тае ці іншае нацыянальнасьці. Зразумела, таварышы, што калі зрабіць агульнае параўнаньне па ўсёй Беларусі, дык у сярэднім гэтыя школы знаходзяцца ня ў горшым становішчы, але-ж насельніцтва ня робіць агульнага параўнаньня, а глядзіць толькі ў адным пункце, у адным мястэчку, і там параўноўвае. І такім чынам мы тут павінны і прымаем ужо на працягу цэлага шэрагу гадоў і ў далейшым павінны прыняць цэлы шэраг мер, каб ліквідаваць гэта ня зусім аднолькавае становішча культурна-асьветных устаноў розных нацыянальнасьцяй.

Тут адна з сялянак выступала і гаварыла, што школы абслугоўваюць не пароўну розныя нацыянальнасьці. У нас, таварышы, усе нацыянальнасьці маюць права, і мы даем фактычную магчымасьць, улічваючы клясавую адзнаку, усім нацыянальнасьцям вучыцца ў нашых школах. Мы ў гэтым годзе атрымалі ўжо сродкі і адчыняем інтэрнаты для беднаты. Але ясна, таварышы, што горад, напрыклад, культурна-асьветнымі ўстановамі забясьпечан больш, чым вёска, таму што мы тут атрымалі больш багатую спадчыну ад ранейшых гадоў, горад больш культурны; у горадзе ёсьць шмат рабочых, і таму мы зараз гэта становішча ў горадзе замацоўваем; таксама мястэчка культурней сяла, і там таксама ёсьць больш культурна-асьветных устаноў, але мы даём аднолькавую магчымасьць усім нацыянальнасьцям вучыцца ў той ці іншай культурна-асьветнай установе. І хоць мы будуем школы на роднай мове, для розных нацыянальнасьцяй але мы ня можам забараніць ісьці вучыцца ў школу на іншай мове. Ня можам гэтага забараніць і не забараняем. Мы, напрыклад, у беларускія школы, ня гледзячы на тое, што ёсьць школы яўрэйскія, прымаем і яўрэяў і палякаў,—усіх, хто хоча там вучыцца. Інакш мы ня можам рабіць. Значыць, у нас усе нацыянальнасьці маюць магчымасьць быць забясьпечанымі аднолькава

культурна-асьветнымі ўстановамі. Праўда, у нас мала сямігодак, іх трэба будаваць больш, але вы бачыце, што і так ёсьць нападкі, што на культ.-асвет. установы трацішца шмат сродкаў. Мы будзем адчыняць і 7-мігадовыя школы з такім разьлікам, каб на кожныя 20 комплектаў чатырохгадовай школы адчыніць адзін комплект сямігадовай.

І апошняе пытаньне, на якім я скончу сваю прамову, гэта наступнае. Мы бюджэт свой пабудавалі пад знакам рэжыму эканоміі. Мы скарацілі выдаткі на адміністрацыйныя патрэбы, але тут, бязумоўна, Наркамфін у некаторых мясцох перараражыміў, не гледзячы на протэсты НКАсьветы. Гэта трэба адзначыць. Я маю на мэце зноўтакі культурна-асьветныя ўстановы. Многія тэхнікумы ў Віцебску, у Воршы (таварышы, якія тут ёсьць, могуць гэта пацьвердзіць) ня маюць чым тапіць печы, сядзяць у холадзе. Гэта трэба прыняць пад увагу і бязумоўна будаваць наш бюджэт пад знакам рэжыму эканоміі, пад знакам скарачэньня выдаткаў на адміністрацыйныя патрэбы, але трэба рабіць гэта так, каб работа таго ці іншага апарату тэй ці іншай установы ня спынялася, каб установы працавалі правільна.

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Абражунас.

Тав. А б р а ж у н а с. Таварышы, складаньне бюджэту праходзіла, як ужо гаварыў тав. Баліцкі, пад пунктам погляду рэжыму эканоміі, некаторай стандарцізацыі выдаткаў па пэўных установах з тым, каб магчымую частку сродкаў выдзеліць на прамысловасьць. Я лічу, што ўсіх тых мерапрыемстваў, якія праводзіліся ў парадку падрыхтоўкі, было зусім даволі, і мы тут ня можам гаварыць аб тым, што бюджэт гэтага году зьяўляецца выпадковым.

Калі гэтае пытаньне разглядалі ў Цэнтральнай Бюджэтнай Камісіі тут-жа ў Менску, і калі падышлі да пытаньня, колькі інстанцый праходзілі дзяржаўны і мясцовы бюджэты, прышлі да заключэньня, што неабходна было-б некалькі зьменшыць інстанцыі прахаджэньня гэтых бюджэтаў з тым, каб скарэй скончыць іх афармленьне.

Таварышы ў сваіх выступленьнях гаварылі аб тым што бюджэт наш ня мае патрэбнай плянавасьці, гаварылі аб тым, што ў ім адсутнічае плянавасьць і што ў будучыне трэба будзе гэтых хібаў унікаць.

Тав. Баліцкі ў сваім выступленьні ўжо ясна адзначыў, што мы маем цэлы шэраг плянаў нашай гаспадаркі, але разам з тым, я хачу напомніць аб тым, што мы маем 3-гадовы плян фінансавы, які ў мінулым годзе прапрацоўвалі, і ў гэтым годзе нашы мерапрыемствы бюджэтнага парадку пачалі ўкладацца, прыкладна, у тую сыстэму, якая была распрацавана ў мінулым годзе.

Такім чынам, пытаньне незадаваленьня поўнасьцю асобных частак гаспадаркі Беларусі выклікае нараканьні, выклікае прад'яўленьне вымаганьняў толькі з тэй прычыны, што малая колькасьць сродкаў не дае магчымасьці поўнасьцю задаволіць усе патрэбы. Зразумела, у парадку работы, у парадку рэгуляваньня нашай работы—нашым урадавым установам прыдзецца паклапаціцца аб тым, каб тыя недахваты, якія ёсьць, каб яны па магчымасьці адхіляліся ў працягу бягучага гаспадарчага году. Цяпер нявартa падыходзіць да пытаньня зьмен як у выдатковай, так і ў прыбытковай частцы. Я лічу, што Сэсія ЦВК на гэткі шлях ня стане і зацьвердзіць тыя матар'ялы, якія былі дакладзены Наркамфінам, а таксама Бюджэтнай Камісіяй. Але для таго, каб у наступны гаспадарчы год і ў працягу гэтага гаспадарчага году мы мелі магчымасьць зьдзейсьненьня цэлага шэрагу мерапрыемстваў, я павінен спыніцца на наступных момантах. Пытаньне больш важнае на сёнешні дзень у вёсцы гэта—лясы—задаваленьне насельніцтва дрэвам і разам з тым правядзеньне зямлябудаўніцтва. Справаздачная

кампанія, якая праходзіла ў сельсаветах, і перавыбарная кампанія, якая цяпер праходзіць, выяўляюць гэтыя два моманты. З гэтай прычыны Наркамзямляробства ў чарзе сваёй непасрэднай работы трэба будзе зьвярнуць увагу на тое, каб нашы вёскі, у якіх праводзіцца зямляўпарадкаваньне, перабудоўваліся ў зямельных адносінах поўнасьцю і ўсебакова, каб зямляўпарадкаваньне не заключалася толькі ў тым, што вёска пераходзіць на многапольле і на гэтым канчаюцца, так сказаць, усе мерапрыемствы, якія ідуць з боку дзяржавы ў справе будаўніцтва гэтай вёскі. Трэба будзе аднначасна выкарыстоўваць ня толькі перавод на многапольле, але і арганізоўваць мэліорацыйныя таварыствы і другія таварыствы, якія патрэбны ў тым ці іншым месцы. Цяпер конкрэтна аб гэтым тут нельга сказаць, але, прыстасоўваючыся да пэўных пунктаў, можна знайсьці ўсе віды поўнага зямлябудаўніцтва і, такім чынам, унікнуць хібаў. Разам з тым, трэба будзе, калі не ў парадку некаторага субсыдаваньня сродкамі, дык хоць-бы ў парадку крэдыту, дапаўняць гэтыя мерапрыемствы.

Другі момант, на якім я хачу спыніцца, гэта па пытаньні нашых перасяленчых фондаў. Па бюджэце гэтыя мерапрыемствы знаходзяць таксама адбітак. Гэты перасяленчы фонд павінен быў быць дадзены тым акругам, якія адчуваюць самую вышэйшую перанаселенасьць і шчыльнасьць, з. тэй прычыны, што акругі, якія менш населены і маюць меншую шчыльнасьць насельніцтва, ня так гэтую перанаселенасьць адчуваюць і ня так зацікаўлены ў рабоце. У нас, у Аршанскай акрузе, разам з Калінінскай, гэтае пытаньне стаіць надзвычайна востра. Гэта трэба будзе ўзяць пад увагу як Наркамфіну, так і Наркамзему на працягу нашага гаспадарчага году.

Дзякуючы таму, што ў гэтым годзе быў некаторы недарод— у прыватнасьці, у нас будзе недахват корму. Мерапрыемствы ў гэтай галіне, зразумела, ні па дзяржаўным бюджэце, ні па мясцовым праходзіць ня могуць, неабходна ўзяць пад увагу канечнасьць адшуканьня крэдыту на гэтыя мерапрыемствы з тым, каб была магчымасьць праз коопэрацыю і выдачу крэдытаў забясьпечыць насельніцтва харчамі, якіх не хапае; і разам з тым пачаць рыхтавацца да мерапрыемстваў веснавой засяўной кампаніі.

Самае складанае пытаньне ва ўмовах нашае Аршанскае акругі— гэта лясное пытаньне. Наша акруга мае мала лесу. Мы выяўляем нізкую вытворчасьць лясной гаспадаркі (праз лесабудаўніцтва). Гэта гаворыць нам пра тое, што неабходна зрабіць цэлы шэраг захадаў. У бюджэтнай камісіі гэтае пытаньне ўздымалася, у прыватнасьці, тады рэзка выявіў гэта тав. Луцкевіч. Я цяпер таксама думаю, што ня шкодзіла-б спыняцца на гэтым пытаньні таму, што эксплёатацыя лясных масываў адбываецца, але разам з тым культура іх надзвычайна малая. Паводле нашых плянаў, хоць-бы па Аршанскай акрузе, у мінулым годзе павінны былі засеяць 1.500 дзес. лесу, тымчасам як ідзе ў высечку шмат болей. Праўда, гэты наш плян мы выканалі, але гэта ўсё такі не адпавядае зробленай высечцы тых лясных масываў, якія распрацоўваюцца ў гэту зіму. Тут трэба будзе зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу, каб пашырэньню за лік засеваў, за лік залясеньня была-б выдзелена адпаведная плошча, і каб тыя сродкі, якія будуць адпушчацца па бюджэце ў наступным годзе, больш-бы адбівалі мерапрыемствы па лясной культуры, чым у гэтым годзе.

У стасунку да рэгуляваньня лясных прыбыткаў мне асабіста прыдзецца падтрымаць пункт погляду тых, хто за сыстэму рэгуляваньня, але ўсё-ж гэта рэгуляваньне мае таксама некаторыя хібы, бо

па рэгуляваньні пры складаньні мясцовага бюджэту мы маем такую рэч, што часта ўкрадаюцца памылкі, і калі гэтыя памылкі выяўляюцца, дык хаця яны і ўсьвядомліваюцца, але ўсё-ж робяцца заявы аб тым, што, аднак-жа, ёсьць надзея на поўнае выкананьне. Я лічу, што будаваць выдатковую частку бюджэту такім чынам трэба ўхіляцца, і калі выяўлены памылкі, дык іх неабходна папраўляць, як у прыбытковай, так і ў выдатковай частцы.

У пытаньні вывучэньня нормаваньня заробнай платы тав. Мікуліч казаў, што ў гэтым годзе зроблены досьлед нормаваньня ў Віцебскай і Менскай акрузе. Добра, што гэты досьлед робіцца ў Менскай і Віцебскай акрузе, але чаму ён ня зроблены, скажам, у Слуцкай і Полацкай акрузе або, урэшце, у Аршанскай і Калінінскай? Чаму ён робіцца ў тых акругах, якія, так сказаць, могуць і бяз гэтага досьледу выйсьці з палажэньня. Я лічу, што паколькі гэты досьлед у гэтым годзе ўведзены, дык яго трэба будзе працягнуць і ў будучым годзе па ўсіх акругах Беларусі. Заява, якую рабіў т. Мікуліч аб тым, што выдаткі гэтыя перавысяць 3 мільёны рублёў, не адпавядае рачаіснасьці. Я лічу, што гэтае пытаньне трэба яшчэ прапрацаваць, і павялічэньне выдаткаў па заробнай плаце выразіцца ў невялікай суме, можа 7-8 проц. (Мікуліч з месца: Гэта па гарадох, а я казаў па ўсёй сетцы). Аб усёй сетцы мы не гаворым. На бюджэтнай камісіі гэтае пытаньне паднімалася, і яны прынялі такую пастанову. Але т. Мікуліч аб гэтай пастанове бюджэтнай камісіі не давёў да ведама Сэсіі ЦВК.

Разам з тым, мы зазначаем некаторыя непаразуменьні ў непасрэднай працы на мясцох, імкненьні супрацоўнікаў наогул пераходзіць з аднэй установы ў другую, каб забясьпечыць сябе лепшым утрыманьнем. Сталага складу працаўнікоў у акругах мы ня маем. Неадпаведнасьць заробнай платы і робіць увесь час такі кругазварот, і гэты кругазварот вельмі шкодзіць нашай працы і, разам з тым, ускладняе працу,—утвараецца пэўная цаганіна, бюрократызм. Каб пазбыцца ўсяго гэтага, трэба правесьці нормаваньне і рацыяналізацыю непасрэдна апарату. І такім чынам будзе магчымасьць пазбавіцца гэтых недахватаў.

Пытаньне перараёнаваньня трэба падтрымаць. Аб гэтым пытаньні перагляду колькасьці акруг гавораць усюды. Я лічу, што ў гэтым бюджэтным годзе трэба канчаткова вынесьці пастанову аб тым, каб ён пачынаўся ня з 1-га кастрычніка, а з 1-га студзеня; такім чынам нам будзе лягчэй справіцца з нашай гаспадарчай работай і плянамі.

Пару слоў у стасунку да тав. Анішчанка, якая ўчора зрабіла заяву аб непаразуменьнях у сямігодцы Дубровенскага раёну. Яна сама пэрсанальна, не праверыўшы гэтага факту, зрабіла заяву, яна зрабіла заяву толькі па чутках, якія ёй перад ад'ездам нехта перадаў. Дзеля гэтага гэтае зьявішча не адпавядае сапраўднасьці. У Дубровенскім раёне гэткае становішча: маецца сямігодка беларуская і ў сямігодка яўрэйская і разам з тым у Дубровенскім раёне адчынены інтэрнат для сялянскіх дзяцей. Жаднае платы як у інтэрнаце, так і сямігодцы асноўнікі ня пляцаць, і тыя сялянскія дзеці, якія вучацца ў паралельных групах, таксама ня плоцяць.

Тое, што організавалася стыхійна, міма згоды аддзелу народнае асьветы, райвыканкому, адна лішняя група, па бюджэце ня прынятая, гэтая стыхійная, так сказаць, організацыя, можа быць, яе і ўвяла ублытаніну, але за гэтую організацыю мы не адказваем. Насельніцтва яе ўтрымоўвае само.

Старшыня: Слова мае тав. Пятровіч.

Та. Пятровіч: Пры разглядзе дзяржаўнага і мясцовага бюджэту кожны год прыходзіцца слухаць тыя прэтэнзіі, якія ў той ці іншай меры нездаволены. Многа недахопаў адзначалася ў мінулыя гады, ёсьць, прэтэнзіі і ў гэтым годзе. Але перш чым гаварыць аб гэтых прэтэнзіях, трэба помніць, наколькі дзяржава можа іх задаволіць і наколькі хутка ідзе рост нашага бюджэту як дзяржаўнага, гэтак і мясцовага. Усе нашы выдаткі абмяжоўваюцца тымі прыбытковымі паступленьнямі, якія рэспубліка зьбірае на сваёй тэрыторыі. Усе прыбыткі, якія зьбіраліся на тэрыторыі рэспублікі ў 1923-24 г., раўняліся 22 с палов. млн. рублёў. У 1926-27 годзе мы маем 71 млн. рублёў. Такім чынам, агульная сума прыбыткаў за астатнія тры гады павялічылася ў 3 з палов. разы. Гэты рост прыбыткаў падкрэсьлівае аб нашым гаспадарчым росьце і палітычным узмацненьні. Па гадох гэты рост праходзіў наступным чынам: ад 1923-24 г. да 1924-25 г. мы мелі рост з 22-х да 41 млн. рублёў. Рост, як бачыце, вялікі. За 1925-26 г. прыбавілася прыбыткаў яшчэ 24 млн., а ў 1926-27 г.—павялічэньне прыбыткаў чакаецца толькі ў суме прыблізна 6 млн. рублёў. Такім чынам, мы маем зьніжэньне тэмпу росту нашых даходаў. Пагэтаму ўсе пляны, усе нашы гаспадарчыя прадпалажэньні, пабудованыя да настаяшчага часу, павінны быць перагледжаны і праверены. У мінулыя годы мы мелі бурлівы рост нашае гаспадаркі і пагэтаму ўтварыліся вядомага роду навыкі работы ў шырокім маштабе. Адзначаючы гэтае, я хачу сказаць, што нашым цэнтральным установам трэба мець на ўвазе, што рост нашага бюджэту ў далейшым будзе невялікім: тэмп росту бюджэту будзе прыблізна такім, як і тэмп разьвіцьця ўсяе нашае гаспадаркі. Ужо ў бягучым годзе прырост валавое продукцыі сельскае гаспадаркі ровен 7-8 проц., прамысловасьці—20-24 проц. Наш бюджэт ня зможа нарастаць значна вышэй прыросту асноўных галін гаспадаркі. Выходзячы з гэтага, трэба некалькі ўявіць сабе адносіны да тых патрэб, якія могуць быць прад'яўлены бюджэту.

Я не згодзен з характарам пастаноўкі пытаньня т. Баліцкага. Ён говорыць: „у нас ёсьць плян агульнага навучаньня і гэты плян трэба выканаць". Але ў нас ёсьць плян усеагульнага навучаньня, які разьлічан на 10 год, і яго трэба выканаць. Але як мы будзем выконваць яго? Нельга падыходзіць да гэтага пытаньня так, як падыходзіць т. Баліцкі. Ужо цяпер, паказваючы цьвёрды процант прыросту прыбыткаў на народную асьвету ў 1927-28 годзе, гаварыць аб 5-ці млн. р. прыросту на адну толькі народную асьвету, у той час, як увесь прырост бюджэту можа будзе раўняцца 5-6 міл. рублёў, мы ня можам. Такая пастаноўка пытаньня можа прывесьці да зрыву ня толькі пляну ўсеагульнага навучаньня, але і іншых плянаў. Мы павінны манэўраваць маючымі сродкамі, накіроўваць іх туды, дзе яны дадуць найбольшы народна-гаспадаркі эфэкт. І толькі тады, калі гэты эфэкт выявіцца, можна і трэба даць маючымся сродкам іншы напрамак. Мы павінны заўсёды выконваць нашы пляны ў залежнасьці ад агульных народна-гаспадарчых абставін у краіне, а не з праклоненьня прад устаноўленым плянам. Цяпер я закрану дынаміку нашых прыбыткаў, якія паступаюць у бюджэт БССР. У дзяржаўным бюджэце БССР у 1923-24 годзе налагавыя прыбыткі складалі 3,7 проц., а неналагавыя—96,3 проц. Такія суадносіны былі таму, што ў 1923-24 годзе мы ня мелі канчатковай сыстэмы ў разьмежаваньні бюджэту. Усе амаль падаткі праходзілі па бюджэту Саюзу, а па рэспубліканскім бюджэце праходзілі прыбыткі ад лясоў і іншыя прыбыткі непадатковага

характару. Але ў далейшым карціна мяняецца. У 1925-26 годзе падатковая частка складала 39 проц., а непадатковая—61 проц. У цяперашнім годзе мы маем яшчэ большыя дасягненьні: падатковыя прыбыткі складаюць у дзяржаўным бюджэце 37,5 проц., а непадатковыя—62,5 проц. Таксама зьмянілася і структура нашага бюджэту. У 1923-24 г. ўсе прыбыткі дзяліліся прыблізна роўнымі часткамі паміж саюзным, з аднаго боку, і рэспубліканскім і мясцовымі—з другога. У 1924-25 годзе палажэньне мяняецца ў бок большага аформленьня рэспубліканскага бюджэту; у 1925-26 г. яшчэ больш пашыраецца база ў бок умацаваньня дзяржаўнага і мясцовага бюджэту рэспублікі. У цяперашнім годзе з усіх прыбытковых паступленьняў у бюджэт у разьмеры 71 млн. рублёў у дзяржаўны і мясцовы бюджэты БССР паступае 57.000.000 руб. і толькі ўскосныя падаткі і пошліны паступаюць у бюджэт Саюзу ССР. Гэтым фактам абвяргаюцца гутаркі беларускіх эсэраў за кордонам аб тым, што Саюз забірае ў нас усе нашы прыбыткі. За апошнія тры гады мы наглядзем вялікі рост нашага бюджэту ў залежнасьці ад таго, што ўсе простыя падаткі і непадатковыя прыбыткі пераданы саюзным рэспублікам. У мясцовым бюджэце мы бачым горшую карціну. Так, у 1923-24 годзе непадатковых прыбыткаў было 40 проц., а падатковых—60 проц. Цяпер мы маем падатковых 52 проц. і непадатковых—48 проц. Такім чынам, процант непадатковых прыбыткаў ніжэй, чым у дзяржаўным бюджэце, прычым на вышыню непадатковых прыбыткаў у мясцовым бюджэце ў цяперашнім годзе мела ўплыў павялічэньне адлічэньняў прыбытку ад лясоў. Калі-б гэтага павялічэньня ня было, то роля непадатковых прыбыткаў была-б яшчэ меншая. Удзел непадатковых даходаў у мясцовым бюджэце невялікі таму, што мясцовая гаспадарка зьяўляецца яшчэ вельмі слабаю. Пагэтаму асноўнаю задачаю як акругі так і цэнтральных органаў у справе ўзмацненьня мясцовага бюджэту зьяўляецца ўзмацненьне мясцовае гаспадаркі (комунальнай гаспадаркі, мясцовай прамысловасьці і г. д.).

З другога боку, каб скончыць з прыбытковаю часткаю, я лічу неабходным застанавіцца яшчэ на адным пытаньні. Запатрабаваньні, якія будуць прад'яўлены да бюджэту ў бліжэйшыя гады, будуць вельмі вялікімі. Наш дзяржаўны і мясцовы бюджэты разам дасягнулі амаль 70.000.000, ня лічачы бюджэтаў Рэчыцкае і Гомельскае акруг. Такім чынам, хаця некаторы рост запатрабаваньняў будзе вызываць неабходнасьць у большым прыросьце, у абсолютнай выразнасьці прыбытковай часткі бюджэту. Прырост прыбыткаў, можа быць, нас незадаволіць, пагэтаму ставіцца пытаньне, ці можа наш бюджэт заставацца дэфіцытным, ці ён павінен быць бездэфіцытным. Нашы імкненьні накіраваны да таго, каб бюджэт зводзіўся без дэфіцыту, так як бездэфіцытны бюджэт дае нам магчымасьць распрацоўваць цьвёрдыя пляны, адразу зьдзяйсьняць гэтыя пляны, пачынаючы з пачатку наступленьня новага опэрацыйнага году і г. д. Выходзячы з гэтага, трэба было-б асабліва падкрэсьліць прапанову Саўнаркому і бюджэтнай камісіі ЦВК аб павялічэньні адлічэньняў ад агульнасаюзнага контынгэнту гэрбавага збору да 6 проц., замацаваць за нашым рэспубліканскім бюджэтам гэты процант на некалькі гадоў з тым, каб мы мелі цьвёрдую прыбытковую крыніцу, якая-б давала нам магчымасьць будаваць бюджэт бездэфіцытна і гэтым самым прыдаць цьвёрдасьць нашаму бюджэту ня толькі дзяржаўнаму, але і мясцоваму.

Цяпер пераходжу да выдатковай часткі. Мы бачым кожны год узмацненьне вытворчых элемэнтаў нашай гаспадаркі. На прамысловасьць у 1924-25 годзе па ўсіх бюджэтах дадзена толькі 686.000, а

ўжо ў 1926-27 годзе даецца 6.893.000 р. Як бачыце, за два гады выдаткі на прамысловасьць павялічыліся ў 10 раз, адносная вага гэтых выдаткаў у бюджэтах з 2,3 проц. узрастае да 10 проц. На сельскую і лясную гаспадарку ў 1923-24 годзе было адпушчана 1.160.000 па ўсім бюджэтам, а ў цяперашнім годзе вызначана 12.679.000, г. зн. павялічэньне выдаткаў таксама ў 10 раз. На комунальную гаспадарку і выдаткі з 1.213.000 у 1923-24 г. вырастаюць да 3.211.000. Тут ужо рост ня гэтакі вялікі, таму што многія з комунальных прадпрыемстваў знаходзяцца на гаспадарчым разьліку. На шляхі зносін па гэтым-жа годам расходвалася саадпаведна 157.000 і 1.694.000 р. — павялічэньне ў 10 раз. Выдаткі на народную асьвету павялічаны ў 4 разы. Адміністрацыйныя-ж выдаткі павялічыліся з 8 да 13 млн., і адносная вага іх з 46 проц. у 1923 годзе зьнізілася да 19 проц. у 1926-27 годзе. Вось гэты разрэз выдаткаў на працягу 4-х год найбольш яскрава падкрэсьлівае аб тым, як будавалася наша гаспадарка, па якім напрамку ідзе яе разьвіцьцё.

(Старшыня гаворыць прамоўцы, што час яго скончыўся).

Я больш ня буду застанаўляцца на выдатках, адзначу толькі некалькі паасобных пытаньняў.

Папершае, трэба адзначыць, што ў гэтым годзе прыбытковая частка нашага дзяржаўнага бюджэту паднялася значна больш, чымся выдатковая. Прыбытковая частка расьце, прыкладна, на 70 проц., а выдатковая павялічылася на 25—30 проц. (я прыводжу неканчатковыя даныя, затым што выдатковая частка не збалянсавана канчаткова). Такія суадносіны ў росьце прыбыткаў і выдаткаў паказваюць на памяншэньне дэфіцыту нашага бюджэту. Адносна да мясцовага бюджэту,-- трэба застанавіцца на яго дыфэрэнцыяцыі. Тут многа гаварылася аб сельскім, раённым і акруговым бюджэце. У цяперашнім годзе мела месца адно значнае зьявішча: мы прызналі і правялі прынцып балянсаваньня прыбыткаў і выдаткаў па комунальнай гаспадарцы. Цяпер трэба было-б паставіць пытаньне аб тым, каб некалькі зблізіць балянсаваньне прыбытковай і выдатковай часткі нашых раённых бюджэтў, затым што дэфіцытнасьць раённага бюджэту, якая складае 50 проц. да балянсу, зьяўляецца вельмі буйным адмоўным момантам, які адбіваецца на складаньні самога бюджэту.

Адначасова з гэтым высоўваецца пытаньне аб сельскім бюджэце. Пытаньне гэта вельмі важнае і яго трэба ставіць. Але, папершае, трэба разьвязаць, у якім аб'еме праводзіць утварэньне сельскіх бюджэтаў. Мы бачым, што прызнаньне прынцыпу збалянсаваньня комунальных выдаткаў і прыбыткаў у некаторых акругах прывяло да вельмі дрэннага становішча. Напрыклад, Клімавічы і Слуцк, тыя акруговыя гарады, дзе комунальныя прыбыткі вельмі малыя, стаяць перад пытаньнем, за які кошт яны будуць будаваць жылішчы, комунальныя прадпрыемствы і г. д. Яскрава, што гэтыя гарады без дапамогі з акруговых бюджэтаў расьці ня змогуць.

Раённы бюджэт трэба будзе ўмацаваць таксама за кошт тых прыбыткаў, якія цяпер праходзяць па акруговаму бюджэту.

Сельскіх бюджэтаў, здаецца, па адным на акругу. Яны вывучаны. Калі ўтварыць бюджэты ўсіх сельскіх саветаў, то трэба паставіць пытаньне, якімі прыбыткамі яны будуць карыстацца.

Можна сказаць раней, што бюджэты сельскіх саветаў на $^2/_3$ будуць дэфіцытнымі Пагэтаму трэба паставіць на будучы год пытаньне аб тым, каб павялічыць лік сельскіх саветаў з сваімі бюджэтамі, сельскія бюджэты не адзін на акругу, а па аднаму ў кожным раёне. Ставіць пытаньне шырэй, каб адразу пусьціць сельскі бюджэт поўным хо-

дам—яшчэ рана. Трэба спачатку ўзмацніць раённы бюджэт, зрабіць яго менш дэфіцытным.

Цяпер яшчэ аб плянавай рабоце. Плянавая работа ў нас вядзецца такім чынам, што перш за ўсё складаецца бюджэт, а пасьля пачынаюць складаць вытворчыя пляны. Гэта дрэнна адбіваецца на самой працы, затым што часта бывае, што ў бюджэце бываюць тыя ці іншыя зьмены, грошы перакідаюцца на іншыя галіны гаспадаркі. Трэба паставіць гостра пытаньне аб тым, каб вытворчыя пляны складаліся перад складаньнем бюджэту. Мы, напрыклад, да гэтага часу, ня глядзячы на тое, што ўжо прайшло чатыры месяцы новага году, ня маем свабоднага пляну па аднаўленьні мясцовай прамысловасьці ў гэтым годзе. Затым нашы рэспубліканскія пляны вельмі дрэнна ўвязваюцца з акругамі. Узяць хаця-б работу па мэліорацыі; тут заўсёды наглядаецца, што акругі ў пачатку года ня знаюць, што будзе рабіць Наркамзямляробства, Наркамзямляробства не знае, што думаюць рабіць акругі. На гэты бок трэба зьвярнуць увагу.

Яшчэ адно маленькае, але вельмі важнае пытаньне. Неабходна ў акругах і раёнах палепшыць склад тэхнікаў і спэцыялістых. Нашы акругі трацяць многа лішніх грошай і многа часу і робяць многа памылак таму, што ў іх няма добра падабраных спэцыялістых. Канцылярскі апарат ёсьць, апарат па народнай асьвеце ёсьць, дактары ёсць а добрых інжынэраў, добрых будаўнікоў не хватае. Пагэтаму і ў рабоце часта маюцца дэфэкты: які-небудзь плян выпрацоўваецца вельмі доўга, сама работа праводзіцца без належнага кіраваньня і надзору і г. д. Усё гэта адбіваецца і на нашай агульнай рабоце.

Нарэшце, трэба паставіць пытаньне аб тым, каб павялічан быў контроль за выпаўненьнем нашага бюджэту на мясцох. Трэба павялічыць работу ня толькі грашовага контрольнага апарату, а таксама і нашых опэрацыйных органаў. Трэба паставіць пытаньне аб якасьці выкананьня працы. Мне здаецца, учора гаварылі, што ў Віцебскае акрузе на тыя сродкі, якія адпускаюцца на школьнае будаўніцтва, школ будуецца ў два разы менш, таму што на тыя сродкі, якія на школу адпускаюцца (6.000 р.), яе будаваць нельга.

Гэта прынамсі перадаюць. Але няма агульных даных аб ходзе будаўніцтва, няма агульнага адказу на пытаньне, ці можна сапраўды пабудаваць на гэтыя сродкі школу, ці можна стандартызаваць гэтую справу. Ніхто не вылучае пытаньня наогул, няма і належнага нагляду за самою працаю. Нагляд гэты павінен быць пастаўлены, затым што калі ня будзе контролю, то мы ня будзем ведаць, як пасьпешна праводзіцца наша будаўніцтва. Мы будзем будаваць фабрыкі, школы, больніцы, але як яны будуюцца? Гэта залежыць цяпер ад таго, як на мясцох падойдуць да гэтае справы. Пагэтаму контроль над выпаўненьнем нашых плянаў павінен быць павялічан наогул і асабліва ў опэрацыйнай рабоце. Дзеля гэтага трэба ўзмацніць некалькі апарат акрвыканкомаў.

Мне здаецца, што яшчэ рана ставіць пытаньне аб тым, каб шырока пераглядзець наша раёнаваньне. Наша раёнаваньне, канечна, прыдзецца пераглядзець. Гэта мы ведалі ў той час, калі праводзілі асноўнае раёнаваньне. Але ў нас яшче гэтакі пэрыод у організацыйнай рабоце, што акругі трэба яшчэ больш узмацняць дзеля таго, каб яны маглі быць ня толькі кіраўнікамі ў палітычных, адміністрацыйных і гаспадарчых адносінах, але каб яны маглі контроляваць опэрацыйнае выкананьне нашых плянаў і самі прыймалі больш шырокі ўдзел ва ўсёй гаспадарчай экономічнай дзейнасьці, падзяляючы гэтую працу з цэнтральнымі органамі.

Старшыня: Слова мае т. Сондак.

Тав. Сондак—Таварышы, я ня буду спыняцца на дасягненьнях, якія ўжо досыць асьветлены выступаўшымі таварышамі. Вядома, што ў гэтым годзе наш бюджэт атрымаў такую прафільтроўку, што ў кожнай частцы, куды ні глянеш, кожны вясковы працаўнік мае магчымасьць бачыць, куды ідуць сродкі, адкуль ідуць і г. д. Кожны вясковы працаўнік мае магчымасьць знаёміць насельніцтва з тым, як наша ўлада выдае нашы сродкі.

Тут я хачу спыніцца на тых рабочых, якія ёсьць у нас на вёсцы. Вядома, у якім стане знаходзяцца нашы рабочыя, прыняўшы пад увагу тыя ўмовы, пры якіх яны знаходзіліся пры імпэрыялістычнай вайне да нашай Кастрычнікавае рэволюцыі і зараз. Трэба, каб Сэсія ЦВК зьвярнула асаблівую ўвагу на асьвету гэтых рабочых, якія там ёсьць. Неабходна пабудаваць школу. Я разглядаў бюджэт па Бабруйскай акрузе. Летась і ў гэтым годзе я зьвярнуў увагу на тое, што там ёсьць пэрспэктвы. Тым ёсьць выселкі, дзе рабочыя жывуць у колькасьці 800 або 1.000 чал., і Наркамасьветы яшчэ не аддаў досыць увагі над тое, каб там пабудаваць 7-годку.

Прайшло ўжо некалькі год. Мы бачым, электрыфікацыю праводзяць, пашыраюць. Тут селянін казаў, што ад пашырэньня прамысловасьці паляпшаецца становішча селяніна. Напрыклад, з каго складаюцца самі рабочыя, калі не з сялян. Калі мы возьмем Бабруйскую, Віцебскую і Полацкую акругі, дзе было 300 рабочых, дык там іх зараз 1.800, і гэты склад папоўніўся за кошт сялян, якія з торбачкай прыходзяць атрымаць якую-небудзь працу. Ясна, што тут павінна быць зьвернута асаблівая ўвага ў першую чаргу.

Возьмем апал 1922 і 1926 г. г. і мы ўбачым, як ён павялічваецца—і тарфяны і лясны—на 12.000 куб. у прамысловых раёнах. А кожная тысяча каштуе ў сярэднім 17 руб. вось 700 сельскіх гаспадарак маюць магчымасьць атрымаць 200 руб. у год, па суседзтву з тэй ці іншай фабрыкай. І мы ведаем, што сялянін Беларусі асабліва серадняк, прымушаны працаваць яшчэ на фабрыцы таму, што ў яго няма сваіх прылад, каб ён мог карыстацца толькі сваёй гаспадаркай.

Наркамасьветы, памойму, не павінен падводзіць пад адну рубрыку ўсіх настаўнікаў. Ёсьць настаўнікі, якія скончылі толькі сямігодкі, ёсьць такія, якія ўжо працуюць 5--10 год. а ёсьць і такія, якія скончылі толькі 3-ю або 4-ю ступень і прымазаліся настаўнікамі, і ўсе яны атрымоўваюць аднолькавую стаўку—37 руб. Тав. Баліцкі тут гаворыць, што для тых, якія ня маюць адукацыі, трэба прайсьці курсы. Я не разумею. І плаціць аднолкавую плату для ўсіх, і яшчэ організоўваць курсы,—гэта-ж прыносыць пэўныя выдаткі. Мне здаецца, што тут трэба правесьці дзьве катэгорыі каб былі настаўнікі, якія-б атрымоўвалі 40 руб. у той-жа самай школе. Мы-ж маем такое становішча, што сярод кваліфікаваных рабочых ёсьць майстры, якія зарабляюць 100 руб., а другія—80 руб., выконваючы адну і тую працу. Мне здаецца, што на гэта павінна быць зьвернута ўвага. Мне здаецца, што значны процант займаюць у нашай Беларусі рабочыя, для якіх прыдзецца адчыніць хоць-бы адну сямігодку. Гэтым самым мы дамо магчымасьць вучыцца рабочаму і селяніну. У нас, у Бабруйску, Віцебску і ў цэлым шэрагу акруг ёсьць школы дзе кожны рабочы плаціць 7 руб. А хто там вучыць? Ці мае ён права вучыць, ці не? Аднак бяро па 7 руб. з кожнага рабочага. І лічаць, што там 4-годка, 5-годка, але яшчэ ніводнае не пабудавалі. Мне здаецца, што Сэсія ЦВК на гэта павінна зьвярнуць увагу.

Старшыня: Ёсьць прапанова спыніць спрэчкі.

Галасую: хто за тое, каб спыніць спрэчкі. (Большасьць).

Спрэчкі спыняюцца.

Абвяшчаецца перапынак на 10 хвілін.

Старшыня: Пасяджэньне адчыняецца, пераходзім да заключнага слова. Заключнае слова мае старшыня бюджэтные камісіі т. Радус-Зяньковіч.

Тав. Радус-Зяньковіч: Некалькі заўваг, таварышы. Перш за ўсё аб тым, што гаварыла т. Анішчанка. Яна ня мае рацыі. Яна казала, што ўчора слухалі т. Адамовіча і быццам выходзіць, што ў нас агульныя дасягненьні, а зараз вось па бюджэту выходзіць—агульныя недахваты. Яна ня мае рацыі. Гэтыя недахваты ў нас зараз зусім асаблівыя. Тут таксама, як і па Саюзу, калі ў першыя гады пасьля Кастрычніка мы ня мелі апалу, мучыліся з сырымі дрывамі, ня мелі вугалю, нафты, гэта былі чыстыя недахваты. Але, калі ўвосень мінулага году мы мелі недахват вугалю і нафты, гэта былі ўжо іншыя недахваты—ня тыя, што пасьля Кастрычніка. Калі зараз мы павялічылі здабываньне нафты і вугалю, дык гэта нам значна лягчэй было зрабіць, як у першыя гады пасьля Кастрычніка, Гэтыя недахваты знаходзяцца зараз у многім тым, што мы організацыйна і тэхнічна не навучыліся яшчэ ў выстарчаючай меры выкарыстоўваць усе нашы магчымасьці.

Мы парашылі, напр., у леташнім годзе будаваць бэтонную фабрыку. Калі абгаварвалі дзяржбюджэт, падышлі да гэтага пытаньня, прыкінулі, што трэба зрабіць для таго, каб хутчэй пабудаваць, ці ёсьць каштарыс, ці ёсьць тэхнічныя проекты,—аказалася, што нічога гэтага няма. І ясна, што недахватам зьяўляецца наша організацыйнае, наша тэхнічнае няўменьне справіцца з тымі задачамі, на якія ўжо ёсьць патрэбныя сродкі. Мы павінны былі таму не адпускаць сродкаў на гэту бэтонную фабрыку поўнасьцю, а даць толькі на падрыхтоўчыя працы. Тут віна, паўтараю, цалком у недахватным уменьні організацыйна спраўляцца са сваімі задачамі, якія сабе ставім. Гэтыя рэчы трэба разьлічаць.

Па бюджэтах—дзяржаўнаму і мясцоваму—мы маем агульныя дасягненьні, вялізны рост гаспадаркі. Калі ўзяць лічбы на працягу 3-4 апошніх год, дык яны не дарма паданы і параўнаны. Імення яны сьведчаць аб вялізным росьце нашае гаспадаркі. Адкуль, сапраўды, ўзята тое, што мы маем прыбытковую частку рэзка вырасшую і такую, што яна дазваляе зводзіць канцы з канцамі бездэфіцытна. Калі нас гэтыя абставіны, побач з рэзка значным месцам непадатковых прыбыткаў, выдзеляюць сярод іншых рэспублік, дык гэта ёсьць простае дасягненьне, у гэтым праяўляецца тое, што наш апарат, усе ўстановы разам узятыя, праца ўраду Беларусі, вялі да вынікаў наладжваньня і росту гаспадаркі. Бясспрэчны рост гаспадаркі адчуваецца ў кожнай дробязі. Калі зараз і праяўляюцца некаторыя недахваты, дык гэта або з-за няўменьня організацыйна справіцца з задачамі, выкарыстаць усе магчымасьці, або ў самым росце зьяўляюцца шчыліны, але недахвату агульнага ўжо няма. Заўтра, пасьлязаўтра, у наступным годзе і г. д. будуць зьяўляцца новыя недахваты, але недахваты асаблівай уласьцівасьці. Гэта трэба разумець, а т. Анішчанка гэтага не разумее.

Ці трэба было параўноўваць бюлжэт 1926-27 г. з бюджэтам 1925-26 г. і ранейшых гадоў? Тав. Аксючыц прабаваў даказаць, што ня трэба было. Ён прабаваў абвергнуць спробу нібы папракаць СНК за тое, што бюджэты мінулых гадоў маюць такія нелахваты. Калі выяўляліся недахваты бюджэтаў ранейшых гадоў і мінулага году, дык

пры гэтым падкрэсьліваўся, перш за ўсё, той большы іх недахват, што яны ня былі ўвязаны з плянамі, з вытворчымі програмамі, ня мелі ў аснове паасобных сваіх лічбаў, папярэдняе выпрацоўкі вытворчых програм. І тут ня віна СНК. Кіньце вы паабывательску падыходзіць да пытаньня, заўсёды шукаючы вінаватых. У гэтым, калі вы ўжо гэтага хочаце,—наша агульная віна, наша агульняе няўменьне. Але аб гэтым мы можам і павінны гаварыць, таму што адгэтуль выцякаюць урокі для нашае працы. Частку ўрокаў мы атрымалі, у бюджэце гэтага году паклалі іх, частка ўрокаў застаецца яшчэ для будучага і павінна быць формулявана нашай пастановай. Часткова гэта ўнесена ў пастанову бюджэтнай камісіі, але гэта можна будзе яшчэ некалькі пашырыць, магчыма паўней пералічыць, якія задачы стаяць перад намі ў справе пабудовы бюджэту будучага 1927-28 году і наступных гадоў. Адным з большых урокаў будзе тое, каб папярэдня, раней, чым скласьці бюджэт, мець добра прапрацаваныя вытворчыя програмы па асобных галінах нашае працы, і перш за ўсё ўсяе нашае гаспадаркі.

Такім чынам, гэтыя ўрокі карысныя. Таму, зварот да лічбаў ранейшых гадоў толькі больш яскрава падкрэсьлівае дасягненьні, якія мы маем у бюджэце гэтага году, а з другога боку, больш цьвёрда і ясна ставіць задачы, якія няўхільна стаяць перад намі і якія трэба перамагчы.

З паасобных заўваг, якія былі выказаны, спынюся ў прыватнасьці на лясных прыбытках. Лясныя прыбыткі, пры рэзкім росьце іх, цесна зьвязаны з выкарыстаньнем зямельнага запаснага фонду. Гэта было ўжо зазначана.

Тав. Браўковіч задаў пытаньне: ці будзем мы мець лясных прыбыткаў больш у гэтым годзе, чым мы паставілі ў бюджэце. Магчыма, што рэзкага павялічэньня супроць тае сумы, якая пастаўлена ў бюджэце, і ня будзем мець, але 21 мільён руб., трэба лічыць, будзем мець. Тут ёсьць шэраг момантаў, якія не даюць магчымасьці думаць аб тым, каб гэта лічба моцна павялічылася; калі магчыма будзе павялічэньне, дык, ва ўсякім выпадку, невялікае. З аднаго боку, кубатура агульнай лесасекі ў гэтым годзе меншая ў параўнаньні з мінулым годам. Лесасекі на зямельных фондах дадзены з такім напружаньнем, што, магчыма, лясному апарату ня справіцца з гэтай задачай. Якасьць зямельнага фонду ў гэтым годзе горшая, чым у мінулым годзе. Трэба таксама ў гэтым годзе вырашыць задачу,—аб чым была пастанова СНК, —аб павялічэньні водпуску лесу сялянству на 30 проц. Магчыма таксама, што ў глухіх раёнах будуць астаткі ад лесасек. Трэба ўсё гэта ўлічваць, а гэта ў пэўнай меры абмяжоўвае магчымасьць росту ляснога прыбытку, вялікага росту, ва ўсякім выпадку, ня дасьць. Але суму, якую мы паставілі ў прыбытковай частцы бюджэту, яе трэба лічыць цьвёрдай. Тым ня менш, гэта не пазбаўляе нас ад неабходнасьці думаць аб часовым характары такога вялікага росту таму, што пры зьмяншэньні лясоў і запаснага зямельнага фонду, мы будзем мець таксама рэзкае зьмяншэньне ляснога прыбытку. Гэта прымушае нас думаць, каб прыбытковую частку бюджэта ўзмацняць за кошт найбольш мэтазгодных зьмен у лясной гаспадарцы, за кошт зьмен у галіне лясной прамысловасьці, за кошт забесьпячэньня паступленьняў з прамысловасьці і гандлю і за кошт страхоўкі ад рэзкага зьніжэньня прыбытковай часткі шляхам забесьпячэньня цьвёрдых паступленьняў у выглядзе адлічэньняў ад саюзных паступленьняў гэрбавага збору і інш.

Шэраг заўваг па выступленьнях. Выступленьне т. Козырава (селянін Магілёўск. акругі)—добрае выступленьне; ён разьвіваў думку

аб тым, што трэба пабудаваць бездэфіцытны бюджэт, што павінны станавіцца на ўласныя ногі. Правільная прапанова. Гэту мерку трэба больш стала ўжыць у справе вышуканьня прыбытковых крыніц і больш поўнага і мэтазгоднага выкарыстаньня тых, якія ёсьць зараз. „Ня ўсё яшчэ выкарыстоўваем, што маем“,—казаў ён. Зусім правільна, ня ўсе магчымасьці, якія ёсьць, мы выкарыстоўваем.

Нават тыя крыніцы даходаў, як я мы маем цяпер, далёка няпоўнасьцю выкарыстаны. Далёка ня ўсе крыніцы выяўлены, і далёка ня ўсе выяўленыя крыніцы выкарыстаны. Лепшым прыкладам гэтага зьяўляецца сельгаспадатак. Калі выступаўшыя тут члены ЦВК—сяляне—паказвалі на цэлы шэраг недакладнасьцяй абкладаньняў сельгаспадаткам, то яны бязумоўна правы. У нас, у рэчавістасьці, атрымалася такое становішча, што падаткам парою абкладзены тыя, якія не павінны былі-б быць абкладзены, і наадварот. Ёсьць здарэньні, што селянін, які ў мінулым годзе плаціў 5 руб. падатку, а ў гэтым годзе ён ад падатку вызвалены. Гэтаму селяніну ня верыцца, што ён вызвалены ад падатку, яму ўсё здаецца, што яму яшчэ прышлюць акладны ліст. Вось гэты селянін і гаворыць, што ён баіцца, каб яго не абклалі большым падаткам. Рублёў да 10 ён плаціць можа, ну а больш, дык яму цяжка. Усе няправільнасьці, якія ёсьць, і зьявіліся ад таго, што ня было ў патрэбнай ступені ўважлівых і ўдумных адносін да гэтай справы. Выканаўчыя Камітэты і сельсаветы павінны былі ўявіць сабе асаблівасьці кожнай акругі, кожнага раёну і нават кожнага сяла. Трэба ўзяць пад увагу неземляробскія заработкі і абкладаць іх падаткам. Усё гэта цалкам ад вас залежала. Ад вас залежала, у якім процанце абкладаць сялянскія гаспадаркі па гэтым заработкам. Мы тут падаліся страхоцьцю і ня ўзялі пад увагу ўсіх неземляробскіх даходаў, баючыся нараканьняў з боку абкладзеных, і замест вытлумачэньня ўпадаўшыся паніцы, і, паставіўшы па ўсёй Беларусі 5-10 проц. абкладаньня, зрабілі неабдуманы крок. Трэба было даць розныя лічбы для розных акругаў і раёнаў на падставе абдуманага падыходу, дзе якая сям'я мае неземляробскія заработкі, якую суму прыбытку даюць яны сялянскай гаспадарцы Гэта трэба было асобна абмеркаваць для кожнай акругі і раёну, а можа і для асобнага сяла. Але мы гэтага не зрабілі. Мы агульнай лічбаю пакрылі ўсю Беларусь і гэтым зрабілі няправільны крок.

Тое-ж самае і з другімі об'ектамі абкладаньня. Возьмем, напрыклад, сьвіней. З абкладаньнем сьвіней у некаторых выпадках атрымоўваюцца кур'ёзныя сцэны, якія гадзяцца для сатырычнае часопісі. Прыходзіць той, што выяўляе об'екты абкладаньня, і пачынае пытацца ў селяніна, колькі гадоў гэтаму падсьвінку. А селянін пачынае над ім сьмяяцца. Сам, кажа, вызнач. Паглядзі яму ў зубы і вызнач. Да гэтай справы трэба было-б падыйсьці больш салідна. Трэба было-б падняць нам у дапамогу тую частку сялянства, якая дапамагла-бы нам правесьці дакладныя выяўленьні об'ектаў абкладаньня.

Бо сельгаспадатак ёсьць падатак клясавы. Сельгаспадатак кладзецца на серадняка і кулака ў рознай меры і зусім не кладзецца на бедняка. Калі мы маем магчымасьць вызваліць да 40 проц. бядняцкіх гаспадарак ад абкладаньня, то гэтай магчымасьцю трэба ўмела карыстацца, а мы ёй карыстацца не змаглі. Мы ў некаторых выпадках абклалі бедняка, вызваліўшы ад падатку серадняка. Трэба абкладаць падаткам, па меры магчымасьці, гаспадаркі, на падставе адпаведнага вучоту. Тут мы не ўзялі пад увагу слабасьць нашых выканаўчых камітэтаў. Яны ўсё яшчэ больш адміністратары, чым гаспадары, якія-б добра разумелі і ведалі, з чым яны маюць справу, і якія-б умелі пры

вучоце падыйсьці да справы чыста падзелавому. Ва ўсякім разе меркаваньні тав. Козырава— цэнныя меркаваньні. Ён таксама зусім праў, калі падыходзіць да пытаньня аб магчымасьці ўзбуйненьня сельсаветаў. Для Магілеўскай акругі гэта зусім рэальная магчымасьць. У Магілеўскай акрузе сельсаветы больш дробныя, чым у другіх акругах, і там узбуйненьне сельсаветаў зусім магчымая справа. Зразумела гэтае пытаньне нельга развязаць адразу з пляча, а трэба падумаць падыйсьці да гэтага пытаньня ўважліва. Ёсьць месцы, дзе да сельсавету да 40 вёрст. Гэта далёкая адлегласьць. Адлегласьць да сельсавету павінна быць невялікая, каб селянін мог заўсёды пайсьці туды. Пры такой вялікай адлегласьці селянін вельмі і вельмі падумае,—ці ехаць яму ў цэнтр, асабліва па дробнай справе.

Тут, таварышы, спакойна падзелавому падыходзілі да пытаньня аб скарачэньні ліку нашых акруг. Зноў такі з пляча гэтае пытаньне вырашыць нельга. Гэтае пытаньне трэба вывучыць, трэба сабраць усе патрэбныя матар'ялы. Гэта, зразумела, не азначае, што разьвязаньне гэтага пытаньня павінна быць адкладзена на многа гадоў. Гэтае пытаньне павінна быць разьвязана падзелавому, вырашана срочна, аднак іменна альбо разьвязьна альбо адкінута. Калі гэтае мерапрыемства дасьць экономію, якая дала-б магчымасьць разьвіваць нашу гаспадарку больш хутка, чым да гэтага часу, то яго лепш правесьці. Увогуле, да гэтага пытаньня трэба падыйсьці бяз той вялікай заўзятасьці і з неабходнай дзелавітасьцю.

Тут гаварылі, што калінінскія спэцыялістыя ў вялікай паніцы, што яны разьбягаюцца, што ім трэба плаціць да 200 руб. і г. д. Гэта, вядома, недарэчнасьць. Спэцыялістыя не такія ўжо прастакі і ня зайцы, каб кожны дзень прачынацца пад кустом і дрыжэць ад страху. Трэба ім растлумачыць, што ім нечага баяцца, што мы ўсе пытаньні будем разьбіраць разам з вамі і таму на іх ніякія грымоты сярод яснага дню ня зваляцца. Ім ня трэба, калінінцам, нічога баяцца. Мы ўсе пытаньні будзем вырашаць разам з вамі.

Калі правільна і здарова выказваўся т. Козыраў, то ні ў якім разе нельга назваць здаровым тое, што выказана тав. Тамашэўскім. Ну, зразумела, ён ня новы беларус, а стары беларус. Але ці новы ён, ці стары—гэта ніякіх адносін да яго выказваньняў, зразумела, ня мае. І няпрыемна тое, што з яго вуснаў, з вуснаў селяніна, мы чуем думкі зусім нядзелавыя, якія і з дзелавога і з палітычнага пункту гледжаньня зусім неправільныя. І хаця ён папярэдзіў, што ў яго няма сялянскага ўхілу, але ў яго, я-б сказаў, ёсьць не сялянскі ўхіл, а якаясь сялянская стыхія і нездаровае разуменьне, ёсьць неразуменьне селяніна, бедняка, нездаровы прыдзірчывы падыход да селяніна—падыход не бедняка, якога ён выяўляе ў сабе, і, на жаль, перадаў тут.

У чым справа? Ці цяжкі сельгаспадатак? Ці лёгкі сельгаспадатак? Ён казаў, што сельгаспадатак у Гомельшчыне цяжэй, чым у Беларусі. Можа быць, але гэтая розьніца, аб якой з прыдзіркаю гаварылі тут з трыбуны на Сэсіі ЦВК, невялікая, маленечкая розьніца, аб якой сур'ёзна гаварыць ня прыходзіцца.

Разважаць так, што, мол, сельгаспадатак стаіць на чале вугла бюджэту, што з сельскага гаспадара і з селяніна бяруць асноўнае, чым, на што існуе дзяржава, на чым трымаецца наш бюджэт,—гэта ўжо голая няправільнасьць. Каго гэта можа прывесьці да непаразуменьня? Нікога. Трэба ўзяць хоць-бы агульную лічбу сельгаспадатку па ўсяму Саюзу—300.000.000 р. Прыкінуць да гэтага ўвесь бюджэт—$4^1/_4$ мільярды—амаль 5 мільярдаў, ня лічачы зводу мясцовых бюджэтаў, і паглядзець, якое месца тут займае сельгаспадатак. Маленькае месца.

Але ў тым-то і справа, што ў нашым бюджэце асобныя лічбы пастаўлена не для таго, каб імі жартаваць, альбо кідацца імі, а для таго, каб іх цьвёрда і добра выпаўніць. А раз тут у нашым бюджэце пастаўлена 7.000 000, то, відавочна, тут кожны рубель аблічаны і кожны рубель павінен быць на сваім месцы. Так пабудаваны наш бюджэт. З кожным рублём зьвязваецца зусім азначанае ўяўленьне аб тым, што іменна на гэты рубель можна будзе зрабіць. Калі гэтага рубля не чакаецца, а тым больш, калі не аказваецца тысячы, альбо сотні тысяч рублёў, то, зразумела, што ў нас будзе прарэха там, дзе на гэты рубель быў разьлічаны пэўны выдатак. Вось чаму мы ставім востра пытанне аб сельгаспадатку.

Мы адзначаем, што лічба яго меншая, чым у мінулым годзе, але ўсё-ж, лічачыся з беларускімі ўмовамі, з некаторым недаборам, з некаторую нявыгоднасьцю для сельскай гаспадаркі ў нашае рэспубліцы, мы усётакі кажам, што росту гаспадаркі мы патрэбным парадкам не аблічылі, і што мы ў параўнаньні з іншымі рэспублікамі, як РСФСР, Украіна, параўнаўча з намі, мы крыху не дабралі, і што на нас у гэтых адносінах тыкаюць пальцамі. Гэта-ж справа, ад якое ніяк не ад тыйдзеш. Вось кажуць, у РСФСР адпаведна з ростам сельскай гаспадаркі, процантаў на 25, паднялі сельгаспадатак на 34 і там выпаўняюць яго ляпей нашага. і вось мы бачым сводку,—вы сягодня ўжо чыталі газэты і чыталі т. Ліўшыца, дзе гаворыцца, як паступае сельгаспадатак: вельмі добра паступае. Да 1-га тэрміну—да лістапада—маса плацельшчыкаў заплаціла сельгаспадатак поўнасьцю, ён выходзіць ня вельмі вялікі; неплацельшчыкам аказваецца ў большасьці той, хто можа лёгка плаціць, але хто зацягвае, увільвае, без усякае прычыны, не з прычыны цяжкасьці, ва ўсякім выпадку, ня той, хто бядняк.

Так што гаварыць, што сельская гаспадарка корміць дзяржаву і г. д. ня прыходзіцца; тут сьмешана сувязь сельскай гаспадаркі з прамысловасьцю ў агульнай сувязі народнай гаспадаркі з пытаньнем аб падатку. У прыбытку дзяржавы, сельгаспадатак займае маленькую частку як у нашым бюджэце, гэтак і ў агульнасаюзным. Але як галіна гаспадаркі—сельская гаспадарка мае вялізнае значэньне і тут бяз цеснай сувязі з прамысловасьцю ніяк гэтае сельскае гаспадаркі неўявіць: гэтую сувязь трэба падкрэсьліць у вялікай меры, бо на гэтай прасторы ўся наша гаспадарчая палітыка—іменна на гэтай—на цеснай сувязі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі. У нашай гаспадарчай экономічнай програме гэта вызначае і зьвязвае тое, што ў палітычнай програме абгаворваецца, як саюз рабочых і сялян, гэта тое, што мы старанна прасочваем, старанна глядзім, да чаго старанна прыглядаемся, правяраючы сябе лішні раз: па вышыні, напрыклад, цэн на продукцыю сельскай гаспадаркі і на прамысловыя тавары. Калі адпаведнасьці тут ня выходзіць, а тое альбо іншае ўхіляецца ў бок, так што цэны пачынаюць разыходзіцца (і атрымліваецца тое, што напамінае былыя „ножнічкі“), то мы б'ём трывогу і робім пэўныя дзелавыя опэрацыі для таго, каб гэтаму перашкодзіць. Гэта асноўнае палажэньне нашай працы і нашай дзейнасьці, дзейнасьці ўсяго савецкага ўраду,—сувязь сельскай гаспадаркі з прамысловасьцю.

Але тутака нельга ставіць у цень і не заўважаць другога боку Тав. Іваноў меў рацыю, калі ён падкрэсьліваў, што тое становішча, калі неабходнасьць разьвіцьця прамысловасьці ставіцца зараз на чале ўсяго, калі мы перад сабою паставілі задачу будаўніцтва соцыялізму ў аднэй краіне, у нашай краіне, і паставілі мы з поўнай упэўненасьцю, што гэтую задачу зможам разьвязаць і ўжо разьвязваем. Ён меў поўную рацыю, калі казаў, што задача прамысловасьці і прамысловага

разьвіцьця павінна быць высунута ў першую чаргу таму, што ад гэтага зараз залежыць тое, у якой меры сельская гаспадарка зможа разьвівацца, зможа расьці, у якой меры яна зможа хутка разьвівацца і ў якой меры яна ў сваім росьце зможа пераходзіць да форм гаспадаркі інтэнсыўнай, карыстацца ў гаспадарцы палепшанымі спосабамі апрацоўкі, выкарыстаць машыны, дайсьці да становішча, калі збудзецца тое, што намячаў Ільліч, калі ён гаварыў, што трэба з благога сялянскага каня перасесьці на буйную машынную тэхніку з выкарыстаньнем электрычнасьці, калі ён казаў аб электрыфікацыі.

Вось у гэтым крузе знаходзяцца думкі, якія зьвязваюць сельскую гаспадарку з прамысловасьцю, і ставяць сельскую гаспадарку ў залежнасьць ад таго, у якой меры будзе расьці прамысловасьць.

Тое, што мы ў гады пасьля Кастрычніка часта накладвалі вялікі цяжар на плечы сельскай гаспадаркі, для ўсіх зусім ясна; але што мы ў годы, калі зма'лі заняцца гаспадарчай працай, на чале ўсяго паставілі сельскую гаспадарку, для ўсіх ізноў такі памятна. Ільлічом акурат гэта па:ажэньне было формулявана і абаранялася, што „пачаць трэба з сельскай гаспадаркі". Але адсюль ні ў якім выпадку не выні-кае тое, каб зараз зьменшаць нашу ўвагу ў прамысловасьці і не разумець таго характэрнага, неабходнага і абавязковага для нас становішча, якое мы ня можам і не павінны праглядзець, — цеснай залежнасьці сельскай гаспадаркі ў далейшым, залежнасьці яе росту і разьвіцьця ад росту разьвіцьця, хуткасьці і паўнаты, сілы росту і разьвіцьця прамысловасьці.

Так, што тут т. Тамашэўскі глыбока няпраў, і прадстаўляе не перадавую селянскую псыхолёгію, ня тое, чым жыве цяпер бядняк селянін, ня тое, што выяўляе цяпер у асноўным здаровы серадняк-селянін, а тое, што яшчэ часамі супроць нас, а часамі па непаразуменьню выказваецца сярод політычна маласьвядомай часткі сялянства і сярод больш заможнай часткі сялянства. Гэта ня тая здаровая думка, якую мы чулі зараз, як правіла ў часе перавыбарнае кампаніі, ад бядняка і асноўнай часткі серадняка. І тут варта толькі пажадаць, каб гэтыя думкі былі выказаны.

Тут некаторыя таварышы, напрыклад, Мікалаеў, Іваноў, гаварылі аб тым, акурат, што старыцаю вяртаецца ў сельскую гаспадарку ўсё, што бярэцца ад яго па сельгаспадатку. Тав. Тамашэўскі недагаварыў таго, да чаго ён хацеў як быццам дагаварыцца,—каб вызваліць зусім сялянства ад сельгаспадатку. Ён да гэтага не дагаварыўся і не дагаворыцца. Але гэта неперавaранае ў яго сьвядомасьці, што вылілася у яго прамове—гэта застаецца, гэта робіць яго думкі політычна і ў справе няправільнымі.

Вывады т. Тамашэўскага здаровыя, але ні ў якай меры ня зьвязаныя з тым, што ён казаў. Вывады здаровыя: правільнее патрэбна нам будаваць сельсавецкі бюджэт, але з таго, што ён казаў, гэтыя вывады непасрэдна не выцякалі. Нейкія іншыя мотывы трэба было прывесьці, падыйсьці да таго вываду трэба было ў ходзе разьважаньняў, але іншых. Бюджэт сельсавету трэба будаваць. Зусім правільная думка, што трэба і далей іменна ў адносінах да раёну, разам з перадачай выдатковых стацей, адначасна перадаваць і прыбытковыя крыніцы.

Адносна апарату. У тым, каб зьменшыць выдаткі на апарат ёсьць вялікая карысьць і гэта карысьць у асноўным пойдзе на гаспадарчае будаўніцтва, на прамысловасьць і на сельскую гаспадарку. Аб гэтым трэба будзе ня толькі падумаць, але ўсё надуманае, а тым болей ужо

праверанае і аказаўшаяся карысным, зараз праводзіць і пры тым шырэй. Я гаварыў ужо, што калі ёсьць зараз у шэрагу ўстаноў выпрабаваная тая ці іншая мера,—у Наркамфіне, напрыклад, тая мера, якая дазволіла атрымаць некаторыя вынікі ў сэнсе скарачэньня штату, павялічэньня выразнасьці ў працы,—на гэтым мы выйгралі, трэба гэту меру ўжыць у адносінах да другіх наркаматаў. Таварышы прабавалі паставіць у выглядзе спрэчак, што трэба гаварыць ня толькі аб нізавым і акруговым апараце, але трэба гаварыць аб цэнтральным апараце. Зразумела, і тое і другое і аб акруговым, і нізавым, і аб цэнтральным апараце. Калі гаварыць аб нізавым апараце, то трэба гаварыць перш за ўсё аб тым, каб узмацняць раёны і сёлы больш моцнымі працаўнікамі, каб яны лепш спраўляліся з працай, але гэты апарат ужо ня так дорага стоіць. Але аб цэнтральным апараце, зразумела, трэба гаварыць у першую чаргу і абавязкова таму, што гэта — ланцужок. Цэнтральны ведамственны апарат прадстаўляе з сябе ланцужок; у гэтым ланцужку жывуць і ў гэтым ланцужку адбываюцца тыя глупства, аб якіх я нядаўна дакладваў на зьезьдзе партыі. Калі мы бачым, што ня толькі наркаматы цэнтральныя, але тое ці іншае ведамства, замест працы кіраўнічай, працуе непасрэдна распараджацца рэзка цэнтралізаваным парадкам адносна таго, што адбываецца недзе далёка ад яго ў сяле і раёне, то тут ёсьць думка, якая ідзе нездаровым шляхам. Калі органы аховы здароўя, напрыклад, мелі ў сваім распараджэньні сродкі дзяржавы і разьмяркоўвалі іх па асобных губ., або акр., яны і сачылі, каб сродкі рацыянальна былі выкарыстаны; тады і пляны ўсе намячаліся ў цэнтры. Ад гэтага становішча мы даўно адыйшлі, і асноўныя выдаткі на ахову здароўя, на асьвету (значная частка выдаткаў) адыходзяць у акругі і на мясцовы бюджэт, і тут роля любога наркамата, як адміністратара, рэзка скарацілася, але выступіла другая роля, якая яшчэ ня ўпоўне ўсьвядомлена, якая не прыстасавана поўнасьцю да працы—роля кіраўніка, роля памоцніка ў справе падрыхтоўкі працаўнікоў, забясьпячаньня неабходнымі працаўнікамі ў справе навуковай прапрацоўкі матар'ялаў. Вось гэта роля цэнтральным апаратам ў выстарчаючай меры яшчэ ня выконваецца. Апроч таго, у пару гаварыць аб самым ліку наркаматаў. Ці патрэбны, напр., наркамат соцыяльнае забясьпекі? Я вось думаю, што зусім не патрэбен, і яго працу, значна яе спрасьціўшы, дасканала можна перадаць Наркампрацы, або нават магчыма правесьці, як шэраг фінансавых опэрацый, праз органы Наркамфіну і сетку яго ўстаноў. Узьнята пытаньне таксама аб злучэньні або якім-небудзь іншым аб'яднаньні рэгулюючай працы ВСНГ і Наркамгандлю. А бязьмерна вырасшы Нар. Кам. Унутраных Спраў, ці-ж ён ня прымушае зноў паставіць, стаяўшае ўжо раз, пытаньне, і падумаць аб тым, ці патрэбен ён наогул у частцы яго працы па лініі саветаў і выканкомаў. Я думаў і думаю, што гэта яго праца не патрэбна, і ўся яна часткова ўжо знаходзіць месца, а часткова павінна пайсьці па лініі працы ЦВК, СНК і Дзяржплану з Эконамнарадай. Карысьць у гэтым была-б тая, што пры гэтых умовах можна было-б узьняць усю адпаведную працу на сапраўдную вышыню працы кіруючай, рэгулюючай, плянуючай. А акругі парабску копіруюць цэнтральныя апараты і ў пабудове сваёй, і ў мэтодах, і сыстэме сваёй працы. Перш за ўсё, яны, як і цэнтральныя апараты, прабуюць адміністраваць больш, чым быць перадатчыкамі цэнтральнага кіраўніцтва. Калі-б гэта было, тады была-б магчымасьць зьменшыць колькасьць працаўнікоў у акругах, палепшыць якасьць гэтых працаўнікоў і таксама палепшыць справу дапамогі ніжэйшым апаратам. Ясна, што акруга—гэта ёсьць шлях ад цэнтра да раёна і сяла, прамежны

этап між цэнтрам і месцамі. Уся праца непасрэднага адміністраваньня сапраўды адбываецца на сяле, у раёнах, там—кінуты асноўныя ўстановы. Калі ёсьць шэраг устаноў, як школьныя, так і мэдыцынскія, і інш. ў акругах, дык яны носяць падсобны характар да тых, якія ёсьць на сяле і ў раёне. Паколькі акруга мае прамежны характар, тут ставіцца пад удар увесь лёс акругі наогул, а таксама і пытаньне аб ліку акругаў. Ставіцца пытаньне, як задача далейшага вывучэньня прадумваньня, далейшага сур'ёзнага разгледжаньня. Упоўне магчыма, працягваючы лёгічную думку аб акруговых апаратах, як паасобных і перадатчыкаў для цэнтральнага кіраўніцтва, запытаць сябе аб тым, ці патрэбны і ці нельга пабудаваць так працу, каб цэтральнае кіраўніцтва проста перадавалася на раёны і сёлы, і каб акруга сама не зьяўлялася сьцяной на шляху; а акруга часта зьяўляецца сьпяной ад цэнтру да месц, там дзе яны прабуюць адміністраваць замест таго, каб цэнтральнае кіраўніцтва перадаваць, зразумець мясцовыя асаблівасьці, унесьці адпаведныя зьмены ў агульнае кіраўніцтва, якое ідзе з цэнтра; каб, з другога боку, і інформацыю аб тым, што робіцца на сяле хутка і поўна перадаць цэнтрт Выкананьне такой працы патрабуе таго, каб акруговыя апараты былі лёгкія, магчыма больш рухомыя і цесна зьвязаныя з выканаўчымі камітэтамі акругаў. А то зьяўляецца цэлы шэраг грузнасьцяй, якія сядзяць на целе бюджэтаў. Калі мы гаварылі аб гэтым на пленуме бюджэтнай камісіі мы зусім спакойна вуснамі старшыні акрвыканкому гаварылі, разважалі і выявілі становішча, што магчыма скасаваньне шэрагу акруговых аддзелаў, напр., АНА і паравядзеньне іх на налажэньне сакратарыятаў або інспэктарыятаў пры выканкомах. Гэта сапраўды трэба было-б зраб'ць. Трэба будзе ўзяць акруговыя аддзелы, асабліва неаб'яднаных наркаматаў і перавесьці (я буду гаварыць перавесьці, гэга бліжэй да справы, каб не акладваць на доўга) у інспэктарыяты пры выканкомах. Бо на самой справе, у акругах выканаўчы камітэт—асноўны гаспадар акругі і ўсё меней ён зьяўляецца адміністратар, а ўсе больш разумным гаспадаром акругі. У нас арганізаваны плянавыя камісіі пры выканкомах, дзе ёсьць старшыня выканкаму нам. старшыні, у іх павінен быць пад рукой апарат, які-б асьвятляў працу на сяле на раёне, які-б дапамагаў цэнтральнае кіраўніцтва пераводзіць на практычныя рэйки з вучотам мясцовых умоў ў дапамогу раёнамі сёлам. Такой грузьнасьці якая зараз у нас ёсьць, зусім ня трэба. Тыя 12 чал., якія ёсьць дапусцім у акруговых аддзелах народнае асьветы скарачаюцца такім падыходам лёгка да колькасьці 2-3 чал. і некалькіх загадчыкаў зусім ня трэба будзе. Мы-ж маем такія зьявішчы: аддзелы, часткі загадчыкі аддзеламі, нам загадчыка, у іх распараджэньні сталы, крэслы, горы паперы, а якую працу яны робяць, чым яны загадываюць—невядома. Але ў гэтых адносінах трэба пусьціць ініцыятыву месць здаровую ініцыятыву. У выглядзе вопыта трэба заняцца гэтым, добры будзе вопыт, можна будзе працягваць, дрэнны невялікая бяда, памыляліся ў большым,—у гэтым памыляцца не так страшна. Мне здаецца, што шырэй пусьціць ініцыятыву месц неабходных спрошчаных апаратах нам трэба будзе.

Цяпер, што датычыць месц. асноўнай працы. Тут мне хацелася-б толькі прыкладам паказаць ўсю няскладнасьць таго, як часам думка ідзе няправільна. Возьмем Калінінскую акругу. Акркомгас існуе а ёсьць проект (пакульшто не зацьверджаны, якія не яўляецца пастановай дэкрэтам) аб тым каб акруговыя камунальныя аддзелы раздрабіць для выгады ў працы: гарадзскія комунальныя гаспадаркі, акруговыя аддзелы мясцовай прамысловасьці вылучыць паасобна.

Калі тая рэч будзе задумана, дык усе яе правядуць, у тым ліку і Калінінская акруга правядзе. Так ужо ў нас водзіцца. Але Калінінскі акр. комгас у складзе сваіх супрацоўнікаў не аплачваецца ні ў якай меры за кошт толькі таго, што здабываецца ім. І ў час гэты склад супрацоўнікаў пусьціць з торбамі па сьвету, каб яны пракарміліся. Я гаварыў і жаргазаў ужо аднойчы аб гэтым, што, урэшце, гэта сапраўдная „сабезаўства“, самая сапраўдная дабрачыннасьць у такой справе і ў такой меры, зусім непажаданая. І зараз Калінінскі акр. комгас ня мае магчымасьці сам аплачваць сваіх супрацоўнікаў, а яны-б яшчэ стварылі гарадзкую комунальную гаспадарку і аддзел мясцовай прамысловасьці, і пад'аддзелы сельскай гаспадаркі ў гарадзкім і акр. комгасе, точна капіруючы адзін другога, і гэта недарэчнасьць пайшла-б далей па апарату. Уся гэта схэма, як вынік выключна адміністрацыйнага камандаваньня (адміністрацыйнага захапленьня, яшчэ кажуць) зусім не патрэбна. У адносінах да акр. комгасу трэба будзе гаварыць, што калі дзе-небудзь і трэба будзе стварыць і гарадзкую комунальную гаспадарку,—але каб пры гэтым кошт апарату не павялічаўся, а навіт зьменшыўся,—дык агульнага правіла з гэтага рабіць ня трэба. Агульным правілам павінна быць другое—і ў Калінінскай акрузе і ў другіх трэба падумаць, каб у некаторых мясцох зусім зьліквідаваць акр. комгасы, а, наогул, значна іх спрасьціць.

Сапраўды, у комунальнай гаспадарцы мы маем шэраг адзінак, якія непасрэдна кіруюць, напр.: паасобныя прадпрыемствы, трэсты, комбінаты і г. д. Там сядзяць людзі, якія з галавой вядуць справу, а калі хто з іх без галавы, дык трэба зьмяняць. Галавы старшыні акрвыканкому і яго намесьніка, які кіруе акрплянам, здаецца, цяпер досыць для таго, каб мець патрэбнае кіраўніцтва, контроль, праверку і плянавыя ўказаньні. Навошта-ж лішняе зьвяно акруговай комунальнай гаспадаркі, якая будзе капіраваць, зноў паўтараць тое, што ў трэстах, прадпрыемствах, комбінатах ужо адзін раз робіцца? Яны будуць наладжваць новую справаздачнасьць, будзе створана вялікая колькасьць новых форм, пасадзяць новых працаўнікоў, зусім непатрэбных, у працы. А справа, між тым, можа лёгка кіравацца—непасрэдна кіруецца яна ў самых трэстах, комбінатах, прадпрыемствах—старшынёю акрвыканкому і яго намесьнікам, кіруючым акрплянам, якія возьмуць на сябе і выканаюць і кіраўніцтва, і дырэктывы, і ўказаньні з цэнтру, і ўвязку агульных плянаў, усё, што тут неабходна. Ітак, трэба падумаць, каб зьліквідаваць акркомгасы, а ў Калінінскай акрузе зьліквідаваць акркомгас у першую чаргу і зараз-жа.

Ці трэба мясцовую прамысловасьць выдзяляць там, дзе яна яшчэ ў зародышы, дзе яе трэба яшчэ разьвіваць? Калі прамысловасьць будзе разьвівацца, дык кіравацца яна будзе там, дзе гэта прамысловасьць непасрэдна аформляецца ў тыя ці іншыя прадпрыемствы або аб'яднаньні іх. Але навошта-ж ствараць дзеля гэтага аддзелы, пад'аддзелы, якія нібы будуць кіраваць. Кіраваць павінны старшыня акрвыканкому і старшыня акруговай плянавай камісіі. Хлапцы, здаецца, ня дрэнныя. Так што тут ёсьць над чым падумаць на мясцох, не чакаючы таго, каб былі цэнтральныя ўказаньні для ўсіх аднолькавыя. Трэба проста сказаць сабе, што трэба падумаць і запісаць гэта ў пастанову Сэсіі, каб у бліжэйшы час, да чарговай Сэсіі або яшчэ раней, выпрабаваць, а потым расказаць, падзяліцца з другімі вопытам, і калі ўдала—будзем прапагандаваць, калі няўдала—будзем крытыкаваць, калі зусім няўдала—адхілім; вялікай памылкі і небясьпекі ў гэтым няма і не закранае гэта асноўнага нашага ладу, а наадварот, лішні раз дасьць шлях, каб выправіць.

Адносна пачатку новага опэрацыйнага і бюджэтнага году з 1-га студзеня—добра было-б—усе разумныя і дзелавыя довады за гэта. Але той, хто з гэтымі довадамі зьвязвае цалком тлумачэньне недахватаў нашага бюджэту, той памыляецца. Адсутнасьць плянавасьці можа-быць таксама і ў тым, калі мы пачнем год з 1-га кастрычніка, таксама як пачнем яго з 1-га студзеня. Зразумела лягчэй было-б пачынаць яго з першага студзеня, таму што к 1-му студзеня мы добра ведаем, што рабілі ў працягу мінулага году, у прыватнасьці, у галіне сельскай гаспадаркі, якія задачы наступнага гаспадарчага году,—і для прамысловасьці гэта было-б лягчэй. Але ўсё-ж, як-ні-як, а на 1-ае кастрычніка мы будавалі дагэтуль усе нашы разрахункі, падрахоўваем вынікі зараз к 1-му кастрычніка. І за 9 месяцаў да канца яшчэ году і па лініі прамысловасьці, і па лініі сельскай гаспадаркі, можна мець папярэднія даныя і вельмі недалёкія ад ісьціны, каб узяць іх за аснову пабудовы бюджэту. А падправіць іх мы можам і пасьля 1-га кастрычніка, але асноўнае можна залажыць і раней, так што 1-га кастрычніка не памеха таму, каб абавязкова мець да складаньня бюджэту вытворчыя пляны. Тое, што мы да складаньня бюджэту ня маем асноўных вывадаў па выкананьню плянаў мінулага году, ня маем асноўнага плянавага вызначэньня на будучы год—гэта віна зноў такі нашай малой організаванасьці.

На гэтым можна было-б і скончыць, але выступленьне т. Масальскага патрабуе маленькае заўвагі. Ён хацеў разьвіць актыўнасьць членаў сельсаветаў на тры рублі. Гэта няўдалая штука. Добрае выступленьне было ў яго, але тут ён здрадзіў сам сабе; ён казаў, што члены сельсавету слаба актыўны, што трэба зрабіць іх больш актыўнымі і парашыў, што можна гэта зрабіць за тры рублі, якія ім трэба (і ён прапанаваў гэта) плаціць. Гэта глупства. Ён налічыў 500 тысяч рублей выдаткаў на гэта. Але на гэта нельга ісьці па сутнасьці гэтае прапановы. Трэба выходзіць з неабходнай самадзейнасьці членаў сельсаветаў, з узроўню іх дзелавое і політычнае сьвядомасьці.

Шырокія масы сялянства маюць поўную магчымасьць падыйсьці да справы кіраваньня, але не заўсёды гэтым карыстаюцца, ня зусім разумеюць неабходнасьць гэтага і ня зусім гэтую магчымасьць выкарыстоўваюць. Але трэба разьвіваць іх сьвядомасьць, паясьняючы важнасьць, разьвіваючы іх політычнае ўсьвядомленьне. І калі мы бачым, што на выбарах прымаюць удзел вялікія масы насельніцтва, атрымліваем лічбы 80 проц. і больш, то гэта рэч добрая. Калі на перавыбарныя сходы прыходзяць жанкі і прыводзяць членаў сям'і, то гэта вельмі добрая рэч, гэта трэба разьвіваць, але ні за якіх тры рублі гэтага ня купіш. Актыўнасьць сельсавету павінна быць ў ім самым, калі кандыдатаў у яго вызначаюць і, як ужо адзначныя папярэдняй работай, выбіраюць. Павінен быць іменна такі здаровы падыход к намечаньню кандыдатаў, у члены сельсаветаў. Члены сельсаветаў—грамадзскія дзеячы павінны працаваць як па сваім простым абавязку за сябе, так і за ўсё сваё сяло, за усё сялянства. У кожным маленькім сельсавеце яны працуюць нагу ў ногу з іншымі сялянамі, іншымі сельсаветамі Саюзу. Кожны селянін у любым маленькім сельсавеце таксама павінен працаваць, як і селянін ў сельсавеце ўсяго Саюзу. Гэта вялізарная грамадзкая політычная работа на карысьць гаспадаркі, рост гаспадаркі, і тут сьвядомасьць, якая дае яму магчымасьць гэта рабіць. З рублямі ня купіш.

Нельга да пытаньня аб 3-х рублёх зводзіць тое асноўнае становішча, што масы насельніцтва рабочых і сялян маюць магчымасьць кіраваць самі ўсёй гаспадаркай і дзяржавай ўпяршыню ва ўсім сьвеце.

Тав. Масальскі дапусьціў грубую памылку, ён нешта не пры сваёй сьвядомасьці, ня зьвёў канцы з канцамі. Гэту думку пускаць у зварот ня трэба было. Старшыні сельсавету і тэхнічнаму працаўніку мы плацім, таму што мы іх нагружаем шмат працай і для таго, каб яны з-за гэтае працы не закідалі сваёй гаспадаркі. Але для членаў сельсаветаў няма патрэбы ставіць пытаньне адносна аплаты. Гэты свой ганаровы абавязак яны павінны выконваць як свой грамадзкі, грамадзскі, і палітычны абавязак, і дзеля тое карысьці, якую ён прыносіць сваёй працай.

Ня ў 3-х руб. разуменьне гэтага асноўнага становішча, дзе масам насельніцтва рабочым і сялянам даецца магчымасьць кіраваць гаспадаркаю ўпяршыню ўва ўсім сьвеце. Таварыш Масальскі дапусьціў грубую памылку; ён штосьці ў сваёй сьвядомасьці не зьвёў канцы з канцамі. Гэтую думку ў зварот пускаць ня трэба было. Старшыні сельсаветаў і тэхнічнаму работніку трэба заплаціць, калі мы на іх накладаем многа іншай работы для таго, каб яны з-за гэтай работы не закідалі сваю гаспадарку. Але рабіць са старшыні сельсавету кулака мы таксама ня маем замеру. Гэты свой ганаровы абавязак ён павінен выконваць з-за тэй карысьці, якую ён прыносіць сваёю работаю.

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Васілевіч.

Тав. В а с і л е в і ч: Я думаю скончыць сваё заключнае слова да другой гадзіны. Мне здаецца, што спрэчкі можна падзяліць на дзьве часткі. Адна частка мае непасрэдныя адносіны да бюджэту гэтага году, а другая частка адносіцца да распрацоўкі бюджэту наступнага году. Я буду спыняцца толькі на тым, што мае непасрэдныя адносіны да бюджэту гэтага году з тэй прычыны, што я лічу, што аб бюджэце наступнага году мы будзем гаварыць яшчэ ня раз да кастрычніка. Я думаю, што і контрольныя лічбы гэтага году мы будзем разглядаць перад бюджэтам. У спрэчках многа ўвагі аддавалася таму, што ўнясеньне на разгляд Сэсіі бюджэту пасьля таго, як ён быццамбы ўжо зацьверджаны, ня зусім нормальна. Гаварылася аб тым, што паўгода прайшло і толькі цераз паўгода мы ўносім на разгляд Сэсіі пытаньне аб бюджэце. Мне здаецца, што калі-б у нашым бюджэце былі разыходжаньні ў галіне гаспадарчых, культурных і адміністрацыйных расходаў з дырэктывамі, дадзенымі партыяй і апошняй Сэсіяй ЦВК, дык нішто не магло-б утрымаць Сэсію ад таго, каб яна гэты бюджэт зьмяніла і пераўтварыла. Пакуль Сэсія не зацьвярджае бюджэт. Ён лічыцца не зацьверджаным. Апрача таго, таварышы, прайшло $3^1/_2$ месяцы, а не паўгода, як сказаў тут адзін таварыш, бо ў яго арытмэтыка мабыць падгуляла. $3^1/_2$ мес. і 6 мес.—гэта дзьве розныя велічыні. Сэсія знаходзіць, што па асобным галінам гаспадаркі культурныя сродкі разьмяркованы правільна, на тых падставах, якія былі дадзены Сэсіяй, а з гэтай прычыны ня ўносіцца сур'ёзных зьмен у тым, што Саўнаркам уносіць бюджэт на разгляд Сэсіі. Мне здаецца, што выраз аб тым, што „ня трэба так рабіць“ ня вытрымлівае крытыкі.

Падруге, у спрэчках паказвалася, што ў нас раней складаецца бюджэт, а пасьля вытворчыя пляны і праграмы. У гэтым годзе мы маем невялікі процант такіх выпадкаў. У мінулым годзе было значна больш незацьверджаных плянаў пасьля зацьвярджэньня бюджэту. Тыя сродкі, якія мы адпушчалі на гаспадарку і культуру, у асноўным былі ўвязаны з плянамі. Зразумела, можа ёсьць некаторыя хібы, але ад гэтых хібаў нельга пазбавіцца ў такой вялікай справе, як складаньне бюджэту, які шчыльна ўвязваецца з усім нашым жыцьцём. У наступным годзе мы павінны будзем яшчэ больш зьвярнуць увагу на

ўвязку плянаў і бюджэтаў, але гаварыць, што ў нас няма ніякіх плянаў к часу складаньня бюджэту, няма ніякіх падстаў.

Цяпер асобныя пытаньні. Тав. Козыраў гаворыць, што мы многа даем льгот беднаце, мала серадняку, і што ўсе павінны плаціць дзяржаве падаткі. Мы лічым, што сёньня кожны грамадзянін у Савецкім Саюзе плаціць падатак. Адзін плаціць сельгаспадатак, другі прампадатак ці падаходны, ці акцыз у той ці іншай суме, у залежнасьці ад таго, які ў яго ўласны бюджэт. Мы ня можам пры абкладаньні падаткам падыйсьці да ўсіх з аднольковай меркай, мы ня можам пры абкладаньні сельгаспадаткам абыйсьці тое становішча, што ў аднэй гаспадарцы маецца больш зямлі, ёсьць конь і плуг, а ў другой гаспадарцы гэтага няма. Трэба таксама зьвярнуць увагу на тое, калі была атрымана зямля. Ці можа селянін быў перасялены. Мы ня можам усе сельскія гаспадаркі абкладаць падаткам, і на бліжэйшыя гады застаецца парадак, пры якім мы будзем значную лічбу гаспадарак вызваляць ад сельска-гаспадарчага падатку.

Я ўжо дакладваў аб тым, што процант, які мы бярэм ад прыбытку асобных гаспадарак, параўнаўча з іх прыбыткам, вельмі малы ў тых гаспадарках, якія маюць паменшаны прыбытак, і павялічваецца ў тых гаспадарках, дзе гэты прыбытак павялічваецца. Дзеля гэтага мы лічым, што серадняцкія гаспадаркі ў гэтым годзе, як і ў мінулым годзе, не пераабкладаюцца.

Мне здаецца, што нельга прапусьціць міма тую тэндэнцыю, якую выяўляе т. Гэйне, не адказаць на яе з тым, каб не павесьці з ёю бабарацьбу Я лічу, што сягоньня няма яшчэ ніякае падставы для таго, каб гаварыць, ці будзем мы, ці ня будзем мець недабор па ўсіх падатках і наогул па ўсёй прыбытковай часьці, так як мы яшчэ ня маем вынікаў аблажэньня па прыбыткова-прамысловаму падатку за першае паўгодзьдзе г. г. Мы ня можам сягоньня гаварыць аб тым, што ў нас будзе недабор па падатковай частцы нашага бюджэту, бо для гэтага няма падстаў. Гэта значыць—уносіць нэрвовасьць, няўпэўненасьць у тым, што нашы мерапрыемствы, намечаныя ў выдатковай часьці, будуць выпаўнены, гэта зн., што мы нашы мерапрыемствы будзем хістаць і гэтае хістаньне можа давесьці да таго, што мы гэтыя мерапрыемствы ня выпаўнім. Я ведаю, сягоньня што ў т. Гэйне ня было лічбаў, якімі б ён мог сваю заяву давесьці.

(Г э й н е—Ёсьць).

Такіх лічбаў у вас няма, вы мне іх не паказалі, хаця я іх прасіў. Значыць, няма і падстаў, каб гаварыць, што наша прыбытковая часьць бюджэту не будзе выпаўнена, і што ў зьвязку з гэтым ня будзе выпаўнена выдатковая часьць. І што дзеля гэтага ўвесь плян разьмеркаваньня сродкаў, у прыватнасьці разьмеркаваньня на гаспадарчыя патрэбы зьяўляецца не рэальным. Мы лічым, што сягодня яшчэ тое, што запісана і па мясцоваму, і па дзяржаўнаму бюджэту, зьяўляецца рэальным, за выключэньнем сельгаспадатку.

(Г э й н е: РСІ абсьледвала).

Лічбаў ў вас няма, т. Гэйне. Паўтараю, за выключэньнем сельгаспадатку. Але мы лічым, што калі мы будзем выпаўняць наш бюджэт, мы ў ім магчыма знойдзем іншыя крыніцы прыбыткаў, якімі мы папоўнім той недабор, які мы маем у сельгаспадатку.

Я згодзен з тав. Зяньковічам у тым, што па сельска-гаспадарчаму падатку мы маглі ўзяць большую цыфру падатку, чымся мы бяром, але тутака былі важныя асаблівасьці, дзякуючы якім мы павінны былі паменшыць гэтую суму падаткаў.

Я даю спраўку па выступленьню таварыша з Рэчыцы, які казаў, што мы перaабкладаем вёску. Калі параўнаць па Беларусі, бяз Гомеля і Рэчыцы, суму сельска-гаспадарчага падатку толькі з раённымі бюджэтамі, то мы ўбачым, што сельска-гаспадарчы падатак у нас складае 7.250.000 руб. (гэта тое, што мы возьмем у нашу касу), а раённыя бюджэты складаюць 16 млн. Трэба заўважыць, што раённыя бюджэты абслугоўваюць толькі сялянства і выключна сялянства. Не гаворачы ўжо аб тым, што мы значныя сумы пускаем на сельскую гаспадарку праз акруговыя бюджэты і найбольш значныя сродкі мы пускаем на сельскую гаспадарку па дзяржаўнаму бюджэту. Дзеля гэтага, гутаркі аб тым, што сельская гаспадарка корміць дзяржаву, сёньня ня маюць ніякіх асноў. Сёньня дзяржаўная гаспадарка разам з сельскай гаспадаркай будуюць бюджэт, і сельская гаспадарка прымае меншы ўдзел у гэтым будаўніцтве, чымся яна прымала раней.

Цяпер адносна выступленьня тав. Прафэрансава. Характэрна тое, што тав. Прафэрансаў у сваей прамове больш усяго зьвярнуў увагі на тое, што ў школах няма клясыкаў, няма бібліотэк, прычым не на рабфаках, у унівэрсытэцэ, а ў пачатковых школах.

(Прафэрансаў: У сямёхгодках).

І ў некаторых сямёхгодках.

(Прафэрансаў: Не ў некаторых, а наогул).

Так, я бачу ўжо дасягненьне сёньня ў тым, што цяпер ужо няма мовы аб тым, што ў унівэрсытэце няма бібліотэк і няма клясыкаў; у унівэрсытэце, на рабфаках, у тэхнікумах мы ўжо бібліотэкі маем і значны лік томаў, і яны ўжо досыць добра абслугоўваюць нашых студэнтаў. У некаторых сямёхгодках яшчэ ня зусім поўныя бібліотэкі, а ў пачатковых школах—там яшчэ слабавата. Праз некалькі год дойдзем да таго, што і там будуць. Сёньня я лічу непрактычным пытаньне аб тым, каб мы ўносілі зьмены ў наш бюджэт, па той прычыне, што ў пачатковых школах патрэбны бібліотэкі з клясікамі, гэта крыху філёзофская пастаноўка пытаньня. Мы лічым, і я гэта ў сваім дакладзе падкрэсьліваў, што бюджэт гэтага году зьяўляецца чымсьці асобным ад бюджэту мінулага году; Мы ў мінулым годзе мелі дасягненьні ў бюджэце, а ў гэтым годзе маем іх яшчэ больш. Прыводзячы лічбы аб асыгнаваньні па ўсіх галінах, якія фінансуюць бюджэт, я паказаў, што мы з году ў год праводзім ту лінію, якая ў гэтым годзе праведзена найбольш яскрава. Дасягненьні, якія мы маем у бюджэце гэтага году, не зьяўляюцца нейкімі паасобнымі дасягненьнямі ад бюджэту мінулага году. У мінулым годзе мы мелі менш дасягненьняў, а ў гэтым годзе трохі больш.

А таму я ніяк не магу прыняць гутаркі аб „ідэальным“ бюджэце і г. д. Ёсьць дасягненьні ў нашай гаспадарцы, у нашым жыцьці і ў нашым бюджэце.

І цяпер яшчэ два апошніх пытаньні. Адносна выступленьня тав. Аксючыца. Тав. Аксючыц напрасна ўзяў на сябе абавязак гаварыць аб усіх сродках, якія мы давалі па нашаму бюджэту ў мінулым годзе на розныя патрэбы і паказвае, што гэтыя сродкі не выкарыстаны таму, што атрыманы вельмі позна. Зусім дарма, вы, тав. Аксючыц, узялі на сабе гэты абавязак. Цікава, што тав. Лысоў прасядзеў тут увесь час і ня выступіў, хоць я і тычыўся яго больш усяго, а таварыш Аксючыц (ён можа з Лысовым згаварыўся) узяў на сябе гэты абавязак гаварыць за ўсіх, аб тым, што ўсе позна грошы атрымалі, і як-жа можна скарыстаць грошы на будаўніцтва, калі іх атрымалі толькі ў кастрычніку.

(Прышчэпаў з месца: Правільна).

Значыць, тав. Прышчэпаў таксама згодзен з Аксючыцам; можна думаць, што тав. Аксючыц зьяўляецца вашым агульным даручнікам, таму што ён выступаў за ўсіх.

(Аксючыц з месца: Я выступаў, як член ЦВК).

А вось Лысоў не выступаў, хоць гэта яго і тычылася, і Прышчэпаў не выступаў.

Прышчэпаў з месца: Ммне трэба сёньня на іншую тэму гаварыць).

На гэтую тэму таксама трэба было-б сказаць, таму што гэта вельмі важна і таму, што вось афіцыйная спраўка, якую тав. Аксючыц ня можа адвергнуць. Спраўка аб тым, што мы ў сакавіку (а не ў кастрычніку далі облігацыі Беларускага Саюзу сельска-гаспадарчых таварыстваў па пазычцы гаспадарчага адраджэньня. Гэтыя облігацыі, узяты, ў маі месяцы, маглі былі быць пушчаны ў ход, з тым, каб весьці гандаль. Чаму гэта здарылася, што грошы ляжалі у Аксючыца і што часьць грошай была затрымана у акругах і часьць у нізавых коопэратывах. Гэта як кажуць, „сам бог ведае". Вы самі павінны былі прыйсьці і сказаць, што грошы атрымалі ў маі месяцы, як рабілася да гэтага часу. Дзяржава дала грошы ў маі м-цы, а наркаматамі ня ўсе сродкі выкарыстаны.

А скажэце, калі ласка, як гэта вышла ў Слуцкай акрузе з з вэксалямі на 400.000 р. Сказаць спраўку? Вельмі лёгка. Гэтыя грошы ідуць ня туды, куды яны павінны ісьці, гэта не адзін выпадак. І калі ў гэтым годзе на гэта не будзе зьвернута патрэбнай увагі, мы можам мець пры выпаўненьні бюджэту такое палажэньне, што мы тыя пляны разьмеркаваньня сродкаў, якія мы маем цяпер, так выпаўнім, што гэта будзе псаваць увесь бюджэт. Дзеля гэтага мы лічым, што ў гэтым годзе ўстановы, якія ўзялі грошы, павінны несьці адказнасьць за выкарыстаньне гэтых грошай.

Трэба сачыць, калі можна так выказацца, за ўсімі тымі ўстановамі, якія грошы выдаюць, якія грошы атрымліваюць і г. д., за выкарыстаньнем гэтых грошай. Мы лічым, што па сельгаспадатку на наступны год трэба будзе ў сыстэму аблажэньня на вёсцы ўнесьці некаторыя зьмены. Мы думаем, што аб гэтых зьменах мы пагаворым асобна на нарадзе, якую мы маем на ўвазе склікаць, на нарадзе членаў ЦВК—сялян і там гэтае пытаньне абгаварыць.

Другое і апошняе пытаньне аб тым, што ў нашым бюджэце ў гэтым годзе ёсьць незначныя дасягненьні па рэжыму экономіі. Па лініі адміністрацыйных выдаткаў, штатаў і г. д. На працягу гэтага году мы павінны імкнуцца да таго, каб ў бюджэце наступнага году гэтыя дасягненьні ў лічбовых адносінах былі большыя параўнаўча з гэтым годам. Такая дырэктыва Сэсіі павінна быць цьвёрдая і павінна мець у будучым бюджэце адбітак большы, чым ў бюджэце гэтага году.

Адносна таго, каб новы бюджэтны год пачынаць з 1-га студзеня. Большасьць з нас прыходзіць да вываду, што з новага каляндарнага году лепш будзе пачынаць бюджэтны год. Трэба будзе гэтае пытаньне разгледзець яшчэ раз ў Саюзе з тэй прычыны, што толькі ў саюзным маштабе магчыма гэта пытаньне вырашыць. Мне здаецца, што гэта будзе лепш і для прамысловасьці і для сельскай гаспадаркі, калі мы будзем пачынаць бюджэт ня з 1-га кастрычніка, калі яшчэ мы ні ў сельскай гаспадарцы, ні ў прамысловасьці, якая залежыць у значнай ступені ад сельскай гаспадаркі, ня маем даволі ясных пэрспэктыў на наступны год, і з гэтай прычыны мы робім памылкі, якіх можна будзе ўхіліцца, калі бюджэтны год будзе супадаць з каляндарным годам.

Старшыня: Цяпер трэба вынесьці пастанову, як у далейшым мы будзем распрацоўваць наш бюджэт. Прэзыдыум прапануе даручыць бюджэтнай камісіі, якая была абрана на Першай Сэсіі, далейшую распрацоўку бюджэту на падставе тых меркаваньняў, якія мелі месца на гэтай Сэсіі (чытае сьпіс членаў бюджэтнае камісіі). Ёсьць прапановы ўключыць у склад бюджэтнай камісіі т. Карпа і Васілевіча.

Кожны член ЦВК і кандыдат мае права прымаць удзел у рабоце камісіі з рашаючым голасам. Пажадана, каб тыя таварышы, якія не пасьпелі выказацца (што былі ў сьпісе прамоўцаў) працавалі ў бюджэтнай камісіі.

(Прапановы прэзыдыуму прымаюцца).

Старшыня: Слова для заявы мае тав. Лысоў.

Тав. Лысоў: Дарма т. Васілевіч паказваў, што я не выступаў. Я лічыў, што калі ідзе пытаньне аб бюджэце, дык выступаць па прыватнай справе нявгрта. Я хачу даць наступную спраўку адносна разьмеркаваньня пазыкі на аднаўленьне гаспадаркі. Мы атрымалі ўпяршыню 75.000 р. 31-га сакавіка. 7-га красавіка мы паслалі проект гэтае сумы, узгодніўшы з асобнымі ведамствамі. Пасьля 12 мая было даручана Наркамфіну паказаць парадак разьмеркаваньня гэтае сумы. Толькі цераз 2½ месяца, 31 ліпеня, гэты парадак быў зацьверджаны ЭКОСО,—два месяцы трэба было Наркамфіну, каб гэты парадак выпрацаваць. Вось цэлы шэраг такіх умоў, якія адзначаны ў акце РСІ ад 13 верасьня (было абсьледваньне РСІ з гэтае прычыны). Гэта давяло да таго, што гэтыя грошы не маглі быць своечасова выкарыстаны, таму што выдача гэтых грошай ў сапраўднасьці магла быць пачата ў жніўні м-цы. У сучасны момант сельска-гаспадарчая кооперацыя атрымала 120.000 р., разам з асыгнаванымі ёй ЭКОСО па пазычцы на адраджэньне сялянскай гаспадаркі. З гэтых грошай нявыкарыстанымі затрымалася ў Саюзе 22.450 р., г. зн. 17 проц. Зусім згодны з т. Васілевічам, што гэта вельмі дрэнна, я-б сказаў, немагчыма, але зноў такі затрыманьне гэтых сум мела пад сабой цэлы шэраг прычын: напрыклад, у Полацку мелі на ўвазе пабудаваць наладную майстэрню, акруговы плян забараніў пабудову майстэрні; зразумела, гэтыя грошы застаюцца ў Саюзе. Тое самае мы маем у Магілеўскай і інш. акругах. Факт, аб якім гаварыў т. Васілевіч адносна вэксалёў Слуцку, мне невядомы; калі-б ён быў вядомы, я ўжыў-бы заходы. І потым яшчэ 19.000 р. застаюцца ў аддзяленьнях банку. Такім парадкам, нявыкарыстана ў сучасны момант 22.450 р., з іх 10.000— у Мазырскай акрузе, дзе, як мы маем весткі, зараз займаюцца загатоўкаю лесаматар'ялаў на гэтыя грошы.

Старшыня: Слова мае тав. Ізраэліт.

Тав. Ізраэліт: Тав. Васілевіч у сваім дакладзе заўважыў, што Слуцкай акрузе было адпушчана 84.000 руб. на пабудову дзьвёх крухмалень. Гэта выклікала сьмех на партыйнай конфэрэнцыі, і я лічу, што водпуск такой сумы На два заводы павінен вызваць сьмех і на Сэсіі ЦВК (Васілевіч з месца—ня выклікае). Не выклікае,—ужо сьмяюцца. Справа ў тым, што каб пабудаваць гэтыя два заводы, трэба ня 84.000 р., а разы ў чатыры болей. Справа ня ў гэтым. Было заўважана, што гэтыя 84.000 руб. пушчаны ня туды, куды трэба па бюджэту, а аддадзены у абаротны капітал. Весткі, якімі валадае тав. Васілевіч, далікатна кажучы, недакладныя. Атрымалі толькі 42.000 руб. пасьля будаўнічага сэзону, у верасьні м-цы, калі будаваць завод нельга. Гэтыя весткі можна знайсьці і ў Белпайгандлю, дзе відаць, што 20.000 руб. аддадзены на абсталяваньне адзін месяц таму назад, а пазасталыя аддадзены

на завод для загатоўкі лесабудаўнічага матар'ялу. Дзеля гэтага, усе весткі, якія маюцца ў тав. Васілевіча, трэба было-б праверыць.

Старшыня: Слова для спраўкі мае тав. Гэйне.

Тав. Гэйне: Тав. Васілевіч зрабіў вывад, нібы-та віцебскі акруговы бюджэт стаіць пад пэўнай пагрозай, што ёсьць ваганьні. Я лічу, што рабіць такі вывад няма ніякай падставы. Я ўчора прыводзіў цыфры, як прыклад, і паасобныя артыкулы, па якіх у нас можа быць недабор па зраўнальнаму збору, па лясному прыбытку, па тых сумах, якія ўключаны ў прамысловасьць. У мяне маюцца даныя аб тым, аб чым я тутака заявіў. Апрача гэтага, у нас нядаўна адбылося абсьледаваньне інспэктарам РСІ нашага бюджэту. Вывады, якія ў мяне маюцца, констатуюць, што бюджэт зьяўляецца наогул, праўда, напружаным, і па гэтаму артыкулу будзе, як відаць, недабор. Але гэта ня значыць, што мы ставім сёньня пытаньне аб тым, што мы нашу прыбытковую частку бюджэту ня выканаем. Відавочна, выканаем, калі не па гэтых артыкулах, дык па іншых. Але я падкрэсьліў, што пры тым становішчы ў нас будзе цяжкое і досыць вялікае напружаньне, калі нам урэжуць субвэнцыю, якую нам мяркуюць даць на будаўніцтва школ, дарог і г. д. Тады мы нашыя пляны па гэтым будаўніцтве ня зможам выканаць.

Старшыня. Слова мае тав. Анішчанка.

Тав. Анішчанка. Я хачу даць спраўку, якая абавязкова павінна выклікаць сьмех, гэта будзе спраўка наконт выступленьня тав. Іваньковіч, бо, калі-б я ня выступіла, дык і яна ня выступіла-б, бо ёй ня было-б чаго гаварыць. Яна нялоўка мяне назвала: „з кулацкім ухілам". Можа быць і так, я ня ведаю, я хачу сказаць аб маім маемасным становішчы, і няхай скажа цэлая Сэсія, якога я ўхілу,—кулацкага ці серадняцкага. У мяне $5^1/_2$ дзесяцін усёй замлі—$5^1/_4$ пашні і $^1/_4$ поплава; сям'я складаецца з 4-х душ; маю 3 каровы, аднаго каня, з дробнага быдла нічога ня маю, апрача сьвіней, якіх выкармліваю для сябе. На беларускім конкурсе атрымала прэмію 3-га разраду (Голас: За што?) За правільнае вядзеньне сельскай гаспадаркі, за кармленьне жывёлы па норме. Маю пасьведчаньне на руках. Няхай скажа тав. Іваньковіч, колькі ў яе зямлі, калі яна ня кулачка. Пару слоў наконт тав. Амбражунаса, які сказаў, што сабралася чалавек 50 дзяцей. Вядома, кожны грамадзянін хоча вучыць сваіх дзяцей, як-жа быць неадукаванымі. У 7-мігодцы памяшканьне ёсьць, карты ёсьць, на свае грошы нанялі кватэру, купілі кнігі. У іх толькі не хапае настаўніка, і яны на свой кошт нанялі, да новага году плацілі, але з новага году не хапіла грошай. Ні старшыня Райвыканкому, ні мясцовая ўлада па асьвеце ня ідуць насустрач. Пашлі дзеці гуляць,—няхай ідуць хуліганіць.

Старшыня: Слова мае тав. Чарнушэвіч.

Тав. Чарнушэвіч: Аглашае парадак чарговага пасяджэньня.

(Ранішняе пасяджэньне зачыняецца).